PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 38 (2053) ГОД XL БЕЛАСТОК 17 ВЕРАСНЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



*Восенню на бульбянішчы.* **Фота з архіва**

*Ганна Кандрацюк*

## Страшныя дажынкі

*КЛЯЙМО*

*Васька ды Лёнька селі на лаўку.*
*Пад лаўкай дрэмле стомлены Коля.*
*За крамай ўлегліся на мураўку,*
*Хто ў лебяду, а хто сярод поля —*
*Калегі Колі, Лёнькі і Ваські,*
*Што спяць салодка, стогнуць ці*
*выюць,*
*Як ў ноч без зорак шакал — да пляшкі.*
*Вып'юць, закусяць, глотку*
*прамыюць*
*Срэбным патокам ці мутным сцёкам,*
*Што ў цёмным бутлі скрывае сілу.*
*І хоць бы зімка, сухмень ці слота,*
*Цягне тых хлопцаў чорт у магілу.*

*МІРА ЛУКША*

Калгас у Б. не цешыцца добрай славай. У навакольных вёсках павучаюць дзяцей: „Глядзі, бо ровар украдуць", або „П'яны трактарыст раз'едзе". І зараз, напрыканцы жніўня, жахлівая чутка абышла ўсю Гарадоцкую зямлю. У час святкавання дажынак загінуў Мар'ян А., дваццаціпяцігадовы калгаснік, бацька трохгадовага дзіцяці.

— Забілі, бо „кацапамі" абзываў, — каменціравалі на лавачках вяскоўцы, у сонечны, святочны дзень.

Калі і нехта гаварыў другое, сяляне не давалі веры.

* * *

У блёках, дзе пасяліліся працаўнікі калгаса, не адчуваецца святочнай атмасферы. Сустрэлі нас запалоханыя, змучаныя жыццём жыхары. Большасць кватарантаў, прадчуваючы новы паход іегавістаў, закрыла дзверы. А калі і пашчасцілася ўжо нам з некім згаварыцца, адказвалі: „Не чуў, не бачыў, не тутэйшы". Безнадзейна дабіваліся мы да чарговых дзвярэй у пошуках адважнага чалавека. „Ідзіце да суседа", — адпраўлялі нас з блёку ў блёк. Па нерамантаваных, прасякнутых кіслым пахам лесвіцах адчувалася цяжкае, беднае жыццё калектыўнай сям'і.

— Kiedyś tu była piękna spółdzielnia, — успамінае пажылая жанчына. — A teraz? Puścili nas z torbami! Nasmrodzą na wypłatę i żyj tu teraz.

У калгасе жывуць „ад куранёўкі да куранёўкі". Дарабляюць у лесе, калі ў сябе няма працы. Частку палеткаў парастае дзікая трава.

— І ўцячы няма куды, — наракае маладая кабета.

У Б. будуюць гранічны пераход.

— Але там будуць даваць працу прыезджым, людзям з адукацыяй, — адзначае нашая інфарматарка.

Сярод жыхароў калгаса шмат асаднікаў. Тут пасяліліся і гаспадарскія сыны з навакольных вёсак. Сёння ў блёках шмат мешаных польска-беларускіх сужонстваў.

— Калісь усе гаварылі па-польску і быў парадак, — гутарым з маладым, мешаным сужонствам.

— Найважнейшае, каб чалавек быў чалавекам, — паўтараюць агульнавядомую на Беласточчыне фразу.

* * *

Мар'ян А. хадзіў на падзённы заработак. Рабіў усё што загадалі. Апошнім часам стаў трактарыстам. Відаць, перажываў сваю новую прафесію, бо і з-за яе ўспыхнула спрэчка. Дажынкі святкавалі па-сучаснаму, ля вогнішча з духмянымі каўбаскамі. У наваколлі чуваць было польска-руска-беларускія песні. Пасля падзяліліся на групы. Камбайнеры і трактарысты пайшлі адвесці душу ў недалёкія кусты. Ніхто не звяртаў увагі на палымяныя і густа насаджаныя вульгарызмамі спрэчкі.

Пачалі сварыцца: „Навошта вы зап... мне з трактара маю помпу", — кінуўся п'яны Мар'ян да сяброў па рабоце. У такім стылі раскручвалася сяброўская выпіўка. Пазней былі кулакі. Раз'юшанага Мар'яна пасадзілі на месца. Але ён зноў пачаў: „А твая жонка ў Беластоку з другімі ходзіць".

— To wtedy ten z G. wstał i walnął go w mordę. Marian stracił przytomność. Wiadomo, jak taki Białorusin z G., metr dziewięćdziesiąt jeden, dołoży, to wszystko! — расказваў сведка здарэння.

Але не скончылася на гэтым. Калі Мар'ян А. прыйшоў да сябе, пачаў яшчэ хлопцаў „кацапамі" абзываць. І тады, відаць, яго зноў „пачаставалі". Пазней толькі заўважылі, што трактарыст не жыве.

У Б. пра ахвяру гавораць:

— Шалёны быў, з гіпсу не вылазіў. У нас ніхто яго не кранаў, бо ведалі які ён. Два дарожныя выпадкі, зрушэнне мазгоў, частыя выпіўкі.

— Я ратаваў Мар'яна, бо гэта мой сябра, — расказвае малады мужчына. — А за маё добрае сэрца, сораму толькі наеўся. І мяне, як „гэтых", палічылі злачынцам. Усе паўцякалі, калі павеяла смерцю. Што мне было рабіць? Узяўся за штучнае дыханне, калега ж быў. А пазней на пастарунак павезлі, у рабочым адзенні. І за выцвярэзнік плаціць, пэўна, прыйдзецца.

З дапамогай пацярпеўшаму прыйшла і мясцовая лекарка ветэрынарыі.

— Калі мяне пазвалі, — расказвае яна, — я ўзяла ўсё, што неабходнае для перавязкі. Тут часта прыходзіцца дапамагаць пасля дракі. То вуха нека-

*Працяг на стар. 3*

*Віталь Луба*

## ПРЫВІД СТАНОВІЦЦА РЭАЛЬНАСЦЮ

Пасля падаўлення забастоўкі на менскім метро пайшлі звальненні яго ўдзельнікаў, а прафсаюзныя дзеячы, якія абвінавачваліся ў арганізацыі страйку, былі арыштаваны і прыгавораны да дзесяці і пятнаццаці дзён турэмнага зняволення. Сярод затрыманых былі народныя абраннікі: Сяргей Антончык — дэпутат Вярхоўнага Савета і Генадзь Быкаў — дэпутат Менскага гарадскога савета. Пры іх затрыманні ўлады спасылаліся на ўказ прэзідэнта ад 21 жніўня аб адмене імунітэту дэпутацкай недатыкальнасці. Сяргей Антончык, звольнены пасля двух сутак, інфармацыю пра антыканстытуцыйны ўказ давёў да агульнага ведама. Паколькі ніхто гэтага дакумента не бачыў, дэпутаты ад апазіцыі спрабавалі высветліць гэтую справу. Факт існавання ўказа пацвердзіў намеснік генеральнага пракурора, але зараз жа ў гэты дзень пайшло афіцыйнае абвяржэнне, зробленае начальнікам Дзяржаўна-прававога ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта. У ім сцвярджалася, што прэзідэнт ніякага ўказа не падпісваў і што чуткі пра такі дакумент распусцілі нядобрасумленныя журналісты. І вось 1 верасня неіснуючы, паводле слоў прэзідэнцкіх адміністранцаў, дакумент набыў рэальны кшталт. Указ н-р 336 аб некаторых мерах па забеспячэнні стабільнасці і правапарадку ў Рэспубліцы Беларусь надрукавалі „Советская Белоруссия", „Звязда" ды некаторыя іншыя афіцыйныя газеты. У сёмым і апошнім пункце ўказа напісана: „Гэты ўказ уступае ў сілу з дня яго падпісання", а пад дакументам памечана дата 21 жніўня. Такім чынам нарэшце ўсё стала ясна ў гэтай цьмянай справе, аб якой гаварылася на працягу дзесяці дзён. Указ быў і ім карысталіся пракуратура і міліцыя, праводзячы арышты ўдзельнікаў страйку на метро ў Менску. Здзіўляе толькі, чаму прэзідэнцкія чыноўнікі замоўчвалі гэты факт: ці самі не ведалі пра гэты ўказ, што выглядае неправдападобным, ці проста хлусілі, бо ў прэзідэнцкім указе чорным па беламу напісана аб прыпыненні дзеяння дэпутацкага імунітэту ў адносінах не толькі да дэпутатаў Вярхоўнага Савета, але і да дэпутатаў мясцовых саветаў.

Аднак не дэпутаты папалі першымі пад прэзідэнцкі гнеў. Самы першы параграф указа тычыцца Свабоднага прафсаюза Беларусі, Пярвічнай прафсаюзнай арганізацыі Менскага метрапалітэна ды Прафесійнага саюза чыгуначнікаў і транспартных будаўнікоў Рэспублікі Беларусь. Згодна з указам іхняя дзейнасць прыпыняецца. Прэзідэнт загадаў пракуратуры ўнесці ў адпаведныя суды прадстаўленне аб забароне дзейнасці вышэйназваных прафсаюзных арганізацый. Такім чынам прэзідэнт забараніў дзейнасць не толькі ўсіх свабодных прафсаюзаў, але нават часткі ўвогуле лаяльных да яго афіцыйных прадстаўніцтваў рабочага класа.

Каментуючы гэты ўказ, юрысты звяртаюць увагу на мноства парушэнняў закона аб прафесійных саюзах Рэспублікі Беларусь. Напрыклад, артыкул 3 гэтага закона сцвярджае: „Прафесійныя саюзы незалежны ў сваёй дзейнасці і падпарадкоўваюцца толькі закону. Забараняецца ўсялякае ўмяшанне, здольнае абмежаваць правы прафсаюзаў, альбо перашкаджаць іх ажыццяўленню, калі гэта не прадугледжана законам". З гэтага ясна вынікае, што ніхто, нават прэзідэнт, не мае права не толькі спыняць, але нават і перашкаджаць у дзейнасці прафсаюза. Аб гэтым вельмі красамоўна

*Працяг на стар. 4*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*ZChN krytycznie ocenia politykę MSZ wobec mniejszości polskich w krajach sąsiedzkich. Według ZChN, prawa mniejszości polskich, zagwarantowane w traktatach międzynarodowych nie są respektowane szczególnie w Niemczech, na Litwie i Białorusi. Prezes Zjednoczenia Ryszard Czarnecki zarzuca MSZ, że niewiele robi, aby te państwa zapewniły takie standardy mniejszości polskiej, jak czyni to strona polska wobec mniejszości zamieszkujących w Polsce.*

*Gazeta Współczesna, nr 163*

* * *

*Zgodnie ze statystykami kościelnymi, jest dziś na Białorusi 2,5 mln katolików, co oznacza w praktyce 2,5 mln Polaków. Polak jest tu jednak wynarodowiony. Czasami nadal boi się przyznać do polskości — a czasami już mu się nie chce. Sami też siebie uważają za ludzi radzieckich.*

*Od półtora roku mamy własny Dom Polski przy ul. Dzierżyńskiego w Grodnie. Tu mieszczą się biura Zarządu Głównego i Oddziału Miejskiego naszego Związku. Jest też biblioteka polska i czytelnia. Tu także będzie miało siedzibę centrum kultury polskiej. Tu są wreszcie: redakcja tygodnika „Głos znad Niemna", Komitet Mickiewiczowski, Stowarzyszenie Kombatantów Polskich, Stowarzyszenie Żołnierzy AK i Stowarzyszenie Osób Represjonowanych oraz wiele innych organizacji polskich.*

*Największym jednak osiągnięciem jest odrodzenie szkolnictwa polskiego na Białorusi. Od 1991 r. mamy tu klasy z językiem wykładowym polskim. W niedalekiej przyszłości będzie można na Białorusi zrobić maturę po polsku. Już dziś jednak staramy się, aby nie zabrakło uczniów do klas pierwszych. Tylko w ten sposób zagwarantować możemy ciągłość nauki z językiem wykładowym polskim.*

*Mamy wreszcie własną gazetę „Głos znad Niemna". To nasza siła i duma. Piszemy w niej o wszystkim, co się u nas dzieje. Czytają ją nasi rodacy w całej republice,* — сказаў Тадэвуш Малевіч, намеснік старшыні Саюза палякаў у Беларусі.

*Ład. Katolikom na Wschodzie, nr 8*

* * *

*Jeszcze niedawno podróżującym po Polsce zagranicznym turystom autorzy przewodników radzili, by koniecznie zabrali ze sobą papier toaletowy. Dziś w toalecie przy Poczcie Głównej w Krakowie obsługująca ją kobieta włada niemieckim i angielskim.*

*Wprost, nr 35*

А ў Беластоку часам здараецца, што азмрочаны дзядзька ў туалеце загаворыць на беларускай мове. Кожны другі стогне з беларускім акцэнтам.

* * *

*Najpierw wyczyścimy gówno, które zaśmieca nasz kraj — planuje 18-letni Maciek z Narodowego Odrodzenia Polski — ćpunów, pedałów, Ruskich, Rumunów i Żydów. Potem zabierzemy się za zdrajców. Zdrajcy to ci co Polskę ciągną do Europy. Dla zdrajcy jest tylko jedno — szubienica. To, że w Polsce nie ma na ulicy szubienic, świadczy jak daleko posunęła się polityczna zgnilizna.*

*Adam Gmurczyk, przewodniczący Narodowego Odrodzenia Polski mówi, że Prawdziwym Polakiem nie jest się siedząc w domu. My czyścimy ulice. Czyszczenie, to tępienie ulicznego brudu. Brud to Rumun, Murzyn, Żyd, Ruski, punk, anarchista. Bijąc śmiecie Maciek ma poczucie dobrze spełnionego obowiązku. O Ruskich pisał w „Szczerbcu" Dariusz Mista, radny z Nowej Huty: „Należy zamknąć przed tą szarańczą wschodnią granicę, złapanych mafiozów rozwalać na miejscu bez sądu, resztę deportować. My nacjonaliści zajmiemy się tym z przyjemnością". Arkadiusz Zdolski absolwent SGPiS o demokracji: „Na terytorium nasze runęła niszcząca fala obcych, okrutnych i chamskich pojęć „demokratycznych". Żydowska demokracja chwyciła w szpony powaloną Polskę i dusi ją". Mirosław Żochowski: „Ideałem wewnętrznym Polski jest typ na wskroś militarny, ucieleśniający zasadę, że nawet spać trzeba z karabinem. Wojna powinna być dla Polaków narzędziem ducha narodowego".*

*Gazeta Wyborcza, nr 187*

Больш-менш такі быў змест ідэалогіі нямецкага фашызму ў канцы дваццатых гадоў.

* * *

*Либеральная белорусская пресса спорит о том, может ли Лукашенко стать президентом Великой России или какой-нибудь Восточно-Славянской Федерации.*

*Готовность Лукашенки ездить в русскую провинцию и вступать там в прямые контакты с местными лидерами, стремление попасти в российские сродки массовой информации, находят свое объяснение. Это поведение человека, для которого его страна слишком мала, как для Наполеона была мала Корсика, а для Гитлера Австрия.*

*Общая газета, 16.08.1995, Москва*

Напалеон пэўна ў магіле перавярнуўся з-за такога параўнання.

* * *

*Nasze marzenia aby cerkiew we wschodniej Białostocczyźnie korzystała z języka białoruskiego jest marzeniem nieziszczalnym — ono na razie jest nieziszczalne nawet na Białorusi. Nie mamy duchowieństwa świadomego narodowo,* — сказаў Аляксандр Баршчэўскі.

*Magazyn Literacki. Numer specjalny, 1995*

* * *

*Дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Беларусі Віктар Шэйман склаў візіт на Кубе. На пытанне журналістаў: „Што ён там робіць?" у адміністрацыі прэзідэнта адказалі: „Не ведаем, калі вернецца — сам скажа".*

*Літаратура і мастацтва, н-р 32*

Вельмі дыпламатычны адказ.

* * *

*Хто вінаваты ў тым, што ў людзей няма грошай?*

*Народная воля, н-р 6*

Адказ просты: г.зв. дэмакраты — агенты імперыялізму.

# З мінулага тыдня

**У 56 гадавіну выбуху II сусветнай вайны** прадстаўнікі гарадскіх і ваяводскіх улад нашага рэгіёна, а таксама ветэранскіх арганізацый усклалі кветкі і вянкі ў месцах нацыянальнай памяці. Ветэранам былі прысвоены ордэны, медалі і афіцэрскія званні. На ўрачыстасцях на ваенных могілках у Беластоку ўдзельнічалі таксама дыпламаты Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь.

**V Эканамічны форум Польшча—Усход** з удзелам палітыкаў і бізнесменаў з Польшчы, Украіны, Расеі і Беларусі адбыўся ў Крыніцы-Гурскай. Мэтай сустрэчы было абмеркаванне магчымасцей і бар'ер гаспадарчага супрацоўніцтва гэтых краін у працэсе еўрапейскай інтэграцыі. Беларускую дэлегацыю ўзначальваў міністр знешнеэканамічных зносін **Міхаіл Марыніч**. Прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў **Уладзімір Карагін** на пленарным пасяджэнні выступіў з дакладам „Стан прадпрымальніцкай інфраструктуры ў Рэспубліцы Беларусь — перспектывы і ўмовы яе ўдзелу ў шырокай міжнароднай інтэграцыі".

**У Пярэмышлі**, па ініцыятыве Хельсінскага фонду правоў чалавека, адбылася сустрэча прадстаўнікоў арганізацый нацыянальных меншасцей, прысвечаная парушэнням грамадзянскіх правоў у адносінах да гэтых супольнасцей і спосабам бесканфліктных вырашэнняў супярэчлівых пытанняў паміж нацыянальнасцямі.

**Міжнародная акцыя „Еўраэкамітынг—Злотаў'95"** прайшоў з 1 па 4 верасня ў Злотаве Пільскага ваяводства. У мерапрыемстве прынялі ўдзел дэлегацыі з адзінаццаці краін, у тым ліку і з Беларусі. З беларускага боку ініцыятыву праявіла Беларускае таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі. У рамках акцыі праводзілася некалькі мерапрыемстваў, самае значнае з якіх — фестываль экалагічнай песні. Беларусь на ім прадстаўлялі салісты Дзяржаўнага аркестра пад кіраўніцтвам **Міхаіла Фінберга — Тато Майсурадзе і Ларыса Грыбалёва**, а таксама салістка ансамбля „Верасы" **Ірына Дарафеева** і фальклорны калектыў „Купалінка".

На ўрачыстым пасяджэнні **Управы рэгіёна „Салідарнасці" ў Беластоку**, прысвечаным 15-годдзю паўстання гэтага прафсаюза, яго ўдзельнікі ўхвалілі пратэст у справе рэпрэсіравання **Свабодных прафсаюзаў Беларусі**. „(...) З увагі на тое, што Беластоцкі рэгіён знаходзіцца ў блізкасуседскіх і дружалюбных адносінах з сябрамі прафсаюзнымі дзеячамі з Беларусі, — чытаем у рэзалюцыі, — маем асаблівыя повады, каб выказаць свой рашучы пратэст супраць рэпрэсій у адносінах да нашых калег, як і ўсіх Свабодных прафсаюзаў Беларусі. У імя нашай міжпрафсаюзнай салідарнасці мы гатовы аказаць усялякую магчымую і неабходную дапамогу рэпрэсіраваным калегам з Беларусі, аж да перамогі".

**Дырэктарам Аддзела культуры, спорту і турыстыкі** Ваяводскай управы ў Беластоку з днём 1 верасня г.г. стаў **Казімеж Максімільян Дэркоўскі** — да таго часу дырэктар Ваяводскага цэнтра анімацыі культуры ў Беластоку.

**Гарадская камунікацыя ў Беластоку** адзначала стагоддзе свайго існавання. З гэтай нагоды ў Філармоніі адбыўся ўрачысты канцэрт, а шматлікай групе транспартнікаў былі прысвоены дзяржаўныя і рэгіянальныя адзнакі.

Невядомыя злачынцы апаганілі адкрыты нядаўна ў Беластоку **Помнік сінагогі** ў гонар двух тысяч яўрэяў, якія загінулі ў падпаленай немцамі вялікай сінагозе ў чэрвені 1941 г. Вандалы змясцілі антыяўрэйскія надпісы і сімвалы на самім помніку і на сцяне суседняга будынка.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

> Камісія па справах нацыянальных меншасцей на Беласточчыне.

> Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры ў даваеннай Польшчы.

> Ці газавы пісталет запэўнівае бяспеку? Адказу на гэтае пытанне шукаў Аляксандр Максімюк.



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Прапанова прэзідэнту РБ

Расейскае выбарчае аб'яднанне „Адраджэнне" мае намер уключыць у першую тройку свайго федэральнага спісу прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнку і прэзідэнта самаабвешчанай Прыднястроўска-Малдаўскай Рэспублікі Ігара Смірнова. Гэтае заявіў на прэс-канферэнцыі ў Маскве старшыня аб'яднання Валерый Скурлатаў. Паводле яго слоў, абодва прэзідэнты ўжо далі сваю згоду. „Аднак мы добра разумеем, — адзначыў Скурлатаў, — што ў нас можа ўзнікнуць шэраг праблем з іх рэгістрацыяй у Цэнтральнай выбарчай камісіі, бо яны з'яўляюцца грамадзянамі замежных дзяржаў. Але мы ўключаем іх у спісы на падставе таго, што яны — грамадзяне СССР". Прыцягненне такіх людзей добра адлюстроўвае мэту руху: узнаўленне расейскай дзяржавы ў граніцах 1975 года.

## Прэзідэнцкае абвяржэнне

У сувязі з паведамленнем некаторых расейскіх сродкаў масавай інфармацыі, што прэзідэнт Беларусі даў згоду балаціравацца ў расейскую Дзяржаўную Думу ад руху „Адраджэнне", намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Уладзімір Замяталін заявіў, што такая пастаноўка пытання сама па сабе абсурдная. У сілу гэтага падобнае пытанне не разглядалася і не магло разглядацца Аляксандрам Лукашэнкам.

## Таразевіч — сябра ПНЗ

Па даручэнні кіраўніцтва Партыі народнай згоды вядомы палітык, член партыі Георгій Таразевіч (былы надзвычайны і паўнамоцны пасол РБ у Польшчы) наведаў на днях Літоўскую Рэспубліку. Ён вёў перамовы з кіраўніцтвам Дэмакратычнай партыі працы. З ім сустрэўся намеснік старшыні партыі і заадно намеснік старшыні Сейма Бяртоніс Юозас. Георгія Таразевіча прыняў таксама заснавальнік ДПП, прэзідэнт Альгірдас Бразаўскас. Дасягнута дагаворанасць аб устанаўленні пастаянных кантактаў паміж дзвюма партыямі.

## БНФ і круглы стол

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка заявіў нядаўна аб сваім намеры сустрэцца ў верасні з палітыкамі рэспублікі за круглым сталом. „Удзел у дыскусіі прадстаўнікоў БНФ магчымы толькі ў тым выпадку, калі пасяджэнне будзе трансліравацца ў прамым эфіры, — сказаў старшыня Берасцейскай рады БНФ Уладзімір Базан. — Толькі прамая трансляцыя здольна данесці жыхарам краіны нескажоны ход дыскусіі, праўдзівую пазіцыю любога палітыка любой партыі альбо руху. Калі ж круглы стол плануецца як чарговае палітычнае шоў, то карысці ад яго не будзе ніякай". Прадстаўнік БНФ лічыць, што праблемы нацыянальнай згоды ў грамадстве сёння вельмі актуальныя.

## Паслядоўнасці забастоўкі

З іскам аб пакрыцці матэрыяльнага ўрону ў выніку забастоўкі ў менскім метро амаль на 2 млрд. рублёў звярнулася Менская транспартная пракуратура да Свабоднага прафсаюза Электрадэпо „Маскоўскае" і Менскага прафсаюза работнікаў метрапалітэна і чыгуначнага транспарту. Прафсаюзныя дзеячы не пагаджаюцца з абвінавачаннямі і сцвярджаюць, што страйк не нанёс урону, а наадварот, зменшыў штодзённую страту, паколькі кошт аднаго праезду складае 7 000 рублёў, а білет каштуе ўсяго 500 руб. 28 жніўня звольненыя метрапалітэнаўцы правялі ў Менску пікетаванне будынкаў адміністрацыі прэзідэнта і гарвыканкама, патрабуючы аднавіць на працы і вызваліць арыштаваных прафсаюзных лідэраў.

## Поспех „Вольнай сцэны"

Бліскучым назваў выкананне ролі Рычарда маладым беларускім акцёрам Алегам Гарбузам крытык вядучай шатландскай газеты „Скотсмен" Марыя Рэліч. Найвышэйшую ацэнку (5 зорак) артыст атрымаў на знакамітым эдынбургскім фестывалі ў спектаклі „Рычард" у выкананні беларускіх акцёраў Тэатра „Вольная сцэна". Артыстаў запрасілі на фестываль у Іспанію і на гастролі ў Англію. Рэжысёр-пастаноўшчык спектакля Валерый Анісенка атрымаў прапанову паставіць „Макбета" Шэкспіра ў старым замку на востраве блізу Эдынбурга. „Вы зрабілі больш, чым усе палітыкі разам узятыя. Вы адкрылі свету тэатральную Беларусь. Вы павінны сыграць „Рычарда" ў Каралеўскім тэатры, каб павучыць англійскіх акцёраў, як іграць Шэкспіра", — сказаў прэзідэнт Еўрапейскага фонду мастацтваў Рычард дэ Марка.

## Работніцу назвалі Алесяй

Кабінет Міністраў — заснавальнік часопіса „Работніца і сялянка" — прыняў пастанову аб перайменаванні гэтага выдання і цяпер часопіс будзе называцца „Алеся". Рашэнне было прынята па прапанове рэдакцыі часопіса.

*Ада Чачуга*

# Сустрэча з консулам у Старыне

Дзеткі з Беларусі, што размясціліся на месяц жнівень у салідным будынку былой старынінскай школы, гасцей ужо, бадай, не спадзяваліся. Быў дзень дваццаць чацвёртага жніўня, а ў нядзелю дваццаць сёмага, пасля развітальнага вогнішча ў суботу, дзеткі збіраліся ўжо дахаты.

Якраз паабедалі і адпачывалі на другім паверсе. Хто паспеў заснуць, хто так сабе ляжаў, хто чытаў кніжку, а пару дзетак яшчэ не паспела ўвайсці наверх і бегала па панадворку.

Сустрэла нас медсястра і масажыстка Раіса Граковіч. Гэта яна замяшчала лекара Яўгена Шмерку, які па сямейных абставінах мусіў выехаць раней у Менск.

Даведаўшыся, што ў госці да дзяцей прыехаў з Беластока Генеральны консул Беларусі, а да таго яшчэ нехта з рэдакцыі, яна зараз жа дала знаць дзецям наверх. Дзеці ўмомант акружылі консула Міхася Слямнёва з жонкай, калі ён, шырока ўсміхаючыся, пытаў, ці добра ім тут.

Убачыўшы ў маіх руках фотаапарат, нацэлены на іх, дзеці падышлі канкрэтна: „Калі будуць здымкі?", „Па колькі?" і г.д. Я крыху расчаравала іх, параіўшы чытаць „Ніву", але консул паабяцаў прыслаць ім гэты нумар абавязкова.

Усе трыццаць трое дзетак, якія адпачывалі і лячыліся сёлета пад пільным вокам лекара-фітатэрапеўта Яўгена Шмеркі ў Старыне, гэта дзеці працаўнікоў Менскага трактарнага завода. Гэта была ўжо другая змена, а першая — адпачывала ў ліпені ў Плёсках.

Як вядома, доктар Шмерка лічыць, што толькі прырода патрапіць вылечыць і ачысціць па-сапраўднаму арганізм чалавека, і таму лечыць дзяцей выключна зёлкамі. Няма тут дзяцей здаровых, кажа Раіса Граковіч. Усе як не з алергіяй, дык з бранхітам, астмай, адным словам, з рознымі хранічнымі захворваннямі. Ёсць нават дзеці пасля аперацыі сэрца. Пабудуць тут дваццаць чатыры дні, у чыстым наваколлі, сярод нескажонай прыроды, канстатуе яна, пап'юць зёлак — і гэта ўжо іншыя дзеці, калі вяртаюцца яны дахаты.

Зёлкі дзеці п'юць тры разы ў дзень, заўсёды перад ядою. Зёлкі лечаць, але не шкодзяць. Дзеці і самі іх збіраюць у лесе, пазнаючы заадно прыроду. Можа, лек бы і хутчэй вылечыў іх ад нейкай цяжкой хваробы, але ж заўсёды існуе пагроза, што зробіць шкодны ўплыў на нешта іншае. А зёлкі, яны добрыя.

Ужо не ўспамінаючы пра тое, якіх шкод нарабіў „Чарнобыль" на Беларусі, дык і так у Менску паветра максімальна забруджана прамысловасцю. Колькі дзетак сёння там хварэе! А тут, у чыстым Беластоцкім краі, ёсць чым яшчэ дыхаць!

Свой дзень дзеці пачынаюць ад гімнастыкі, прыводзяць у парадак пакоі і сябе. Тады прымаюць зёлкі, снедаюць. Пасля снедання адбываецца лячэнне і дзецям робяць масаж. Апрача Раісы Граковіч ёсць яшчэ масажыстка Аня Цыркун.

Перад абедам — ізноў зёлкі, пасля абеду — ціхі час. Ну, а тады ўжо розныя ігры, малюнкі, паездкі — аж да зёлак перад вячэрай.

Найлепшыя дзіцячыя малюнкі забралі на выстаўку ў Дубічы-Царкоўныя. Некалькі засталося — яны вісяць на сцяне і, паверце мне, ёсць на што паглядзець. Нехта прынёс яшчэ зверху цудоўную панараму царквы ў Гайнаўцы, якую дзеці малявалі калектыўна. Якое хараство! Прашу нясмела для „Нівы", што мы б гэта ахвотна апублікавалі, але дзе там! Таксама пойдзе на выстаўку ў Дубічы-Царкоўныя.

Дзеці, што абступілі консула, — Са-

*Працяг на стар. 8*

*Генеральны консул Беларусі М. Слямнёў слухаў дзяцей уважна.*

У Доме культуры ў Гайнаўцы

## Цікавая фотавыстаўка

У пачатку верасня бягучага года ў Доме культуры ў Гайнаўцы адкрылі фотавыстаўку „Помнікі сакральнага мастацтва". Складаецца яна са 120 фотаздымкаў, зробленых лепшымі фатографамі, пражываючымі на Беласточчыне.

Экспазіцыю можна паглядзець штодзённа ў гадзінах працы Дома культуры. Будзе яна адкрыта да канца верасня.

**(яц)**

## Прыгранічная гасцініца

У гміне **Кузніца**, усяго пару кіламетраў ад гранічнага перахода, пачалі пабудову гасцінічна-гастранамічнага аб'екта.

Дзеля таго, каб было лепшае абслугоўванне турыстычнага руху на польска-беларускай граніцы, варшаўская суполка „Мітакс" пабудуе тэрмінал у Ласоснай. У далейшым плане прадугледжана яшчэ пабудову ў той жа мясцовасці гасцініцы ды бензінавай станцыі.

**(яц)**

## Кандытарскі завод

Нядаўна ў **Нараўцы** пачало працаваць невялікае кандытарскае прадпрымства. Выпускае яно цукеркі. У фабрычцы працуе дзевяць жанчын і чатырох мужчыны з Нараўкі, Міклашэва і са Старога Ляўкова.

Ад імя фірмы „Esan" Co. Ltd. з Варшавы заводам кіруе Андрэй Недзведзь, жыхар Нараўкі. Прадпрыемства працуе паспяхова. Мае збыт на свае вырабы.

**(яц)**

# ДОМ

Дом — месца, да якога чалавек вяртаецца, дзе знаходзіць самога сябе. Незалежна ад таго, ці гэта — палац, ці лядовы домік, шалаш або жыллёвы цэментавы шэры блёк, ён — ахова і абарона чалавека. Дом — люстра асобы, да якой належыць, адбітак грамадства, цывілізацыі, культуры, у якіх узнік.

Дом жыве. Жыццём свайго стваральніка, які жыве ў ім. Дом настолькі прасякнуты характарам свайго ўласніка, што абодва — адзінства. Няма дамоў аднолькавых, як няма аднолькавых людзей. „Калі пытаю яго на маёй мове, ён адказвае мне на маёй мове" — пісаў Д'Анунцыя.

Кожны з нас, калі зачыняе за сабою дзверы свайго дому, хоча аддзяліцца ад іншых, уцячы ад небяспекі, схавацца перад цікаўнымі позіркамі людзей, таму, што толькі на сваёй тэрыторыі, у адзіноцтве альбо са сваёй сям'ёй, чалавек адчувае сябе бяспечным і ўпэўненым. Чым далей ад дому, тым больш адчуваю сваю слабасць і праяўляю агрэсіўнасць. Гэта ж датычыць і звяроў.

З дамоў пачалі ўзнікаць вёскі і гарады, калі чалавек пачаў весці аселае жыццё. У гісторыі чалавецтва тры фактары ўплывалі на эвалюцыю дома: неабходнасць абароны перад ворагам звонку, прастора, якую можна аддаць дому, і ўзровень развіцця тэхнікі ў дадзены момант. Даходзіць да гэтага яшчэ і густ уласніка. Сёння будуюцца „жыллёвыя машыны", у якія ўціскаецца незлічоную колькасць жыхароў. Ці гэта не шкодна для псіхічнага здароўя людзей? — задаў аднойчы такое пытанне французскі псіхіятр Поль Сівадон.

Каб сямейнае жытло давала жыхару пачуццё бяспечнасці і спакою, трэба пракектаваць у доме два аддзельныя ўваходы (гэта дае магчымасць уцёкаў). Калі гэта немагчыма, шырыня ўваходных дзвярэй павінна дазволіць аднвчасова праходзіць дзвюм асобам. Важным элементам дому ёсць парог пры ўваходзе і калідор. Сапраўдны ўнутраны свет пачынаецца з пярэдняй. З хвілінай уваходу ў пакой незнаёмец становіцца госцем.

З псіхалагічнага пункту гледжання гэта нездарова, калі жыллё знаходзіцца блізка месца працы, — два полюсы жыцця: гняздо і тэрыторыя палявання павінны быць дакладна аддзелены. Дантысты і хатнія гаспадыні, якія рэдка выходзяць з дому, часта пакутуюць нсўрозамі з прычыны недахопу змены месца (незалежна ад таго, жывуць яны і працуюць у аддзельным доме ці ў шматпавярховым людным блёку). Дом — цудоўнае месца для мужа, які стомлены вяртаецца з працы, але ці ён — аднолькава цудоўнае месца для яго „непрацуючай" паловы?

Добра, калі непадалёк жылля знаходзіцца іншы ад мікрараённага краявід. У вялікім мікрараёне важным для псіхічнага здароўя жыхароў ёсць крамы з цікавымі выставачнымі вітрынамі, фантаны і сажалкі, пагорачкі, скальныя агародчыкі, разнавіднае асвятленне — усё, што разбівае аднастайнасць, спрыяе адпачынку, марам (уцёкі ў мары, ва ўяўленне — адзін са спосабаў змены месца). Шкада, што ў сучасных кватэрах рэдка ёсць месца на каміны — агонь не толькі грэе, але і дае пачуццё бяспекі, правакуе да мараў і роздумаў.

У сярэдзіне дому павінны быць захаваны прапорцыі паміж патрэбай пачуцця бяспекі і свабоды, магчымасцю ўцёкаў з дому і да дому.

У доме-айчыне — таксама. Я хачу яе будаваць па-свойму, упрыгожваць — па-свойму і па меры магчымасці, за парог пускаць і запрашаць на пакоі мілых мне гасцей і выйсці са свайго дому, калі хачу.

**Міра Лукша**

## Чаму?

Жыхары Лешукоў, Міхнаўкі, Бакавога, Дубровы, Кардону і Сушчы, каб раніцай даехаць у Гайнаўку, вымушаны хадзіць чатыры кіламетры ў Старое Ляўкова да аўтобуса ПКС, які адсюль ад'язджае а гадзіне 6.50.

Пісалі ды накіроўвалі прашэнні да Дырэкцыі аддзела Краёвай ПКС у Бельску-Падляшскім, каб аўтобус ездзіў у Лешукі. Дастаткова прадоўжыць маршрут на 4 км. У жніўні бягучага года на гэтай дарозе закончылі пракладку асфальту. Дырэкцыя ПКС — як дагэтуль — не хоча прыхіліцца да просьбы жыхароў вёсак і прысёлкаў аддаленых ад Старога Ляўкова.

Чаму?

**(яц)**

# СТРАШНЫЯ ДАЖЫНКІ

*Працяг са стар. 1*

му абарвуць, то зноў з тварам пабітым, параненым прыводзяць. Але цяпер я не была ў змозе дапамагчы. Мар'ян ужо не жыў. Чуваць было толькі пакаяльны лямант субяседнікаў. Пазней, калі пачулі, што хлопец скончыўся, усе паўцякалі.

— А „гэтыя", то хіба сумлення не маюць. Ходзяць толькі і п'юць як ашалелыя, — дадае калгасны камбайнер, маючы на думцы субяседнікаў з Г.

— Ай, што тут добрае можа здарыцца! — пацвярджае словы камбайнера лекарка. — Нап'юцца абы-чаго і дурэюць! А пазней уся закамплексаванасць і беды выпаўзаюць на іх галовы. Адны робяць тут „polską Białoruś", а другія змагаюцца за Польшчу. І ў гэтым дашукоўваюцца свайго няшчасця.

**Ганна Кандрацюк**
**Супрацоўніцтва**
**Лена Глагоўская**

*Сакрат Яновіч*

# Следам за моваю ў вечную памяць

Нашы духоўныя клятыя праблемы — у іх фінальным рахунку — зводзяцца да аднаго: беларускае грамадства было пазбаўлена заможных слаёў. Беларус пераўтвараўся ў сінонім убогага чалавека, неасвечанага і асуджанага на паніжэнне. Напоўненага забабонамі.

З'ява гэтая мае пад чатырыста гадоў сваёй гісторыі. Галоўная яе прычына ў страце Вялікім княствам Літоўскім уласнае незалежнасці ў карысць Польскай Кароны. Найперш, аднак, адбываўся працэс адыходу эліты ад роднае мовы і культуры. Адчувальны наступ каталіцызму не быў бы магчымы без папярэдняй хвалі паланізацыі. Пацвярджае гэта факт адсутнасці ў папістаў прапаганды *рускімі літэрамі і словамі*. Не было ўжо неабходнасці ў тым.

Беларускамоўе з'явілася толькі ў практычнай дзейнасці езуітаў. Пасля, калі ў сваім місіянерстве пачалі яны пранікаць праз баярства і мяшчан у глыб сялянскіх мас. Паланізаваць паншчыннага халопа ніхто раней не бачыў сэнсу. Нават акаталічваць. Гэта тады ўсталяліся паняцці **ritus ruscitus** г.зн. вера сялянаў, якім даволі цэркаўкі з саламяным дахам, і **ritus dominus**, г.зн. вера паноў, якія фундавалі манументальныя касцёлы.

У адпаведнасці з гэтым польская мова ўспрымалася нашымі продкамі як **панская**, а беларуская як **мужыцкая**.

У такіх *гістарычных аглоблях* дажыў народ да сённяшніх дзён.

Выпрагчы беларуса *з хамута* магла беларуская дзяржава або нешта накшталт яе. Так, як ведаем, не здарылася, хоць сама спроба мела месца ў заціханне першай вялікай вайны.

Гістарычны час не стаіць на месцы, тым болей не чакае спозненых. Следам за сацыяльнымі — у сваёй сутнасці гарадскімі — рэвалюцыямі, заўсёды накіраванымі на знішчэнне сялянства як постфеадальнай структуры, разам з апошневаеннай катастрофаю Хірасімы выбухнула і навукова-тэхнічная. Гэты пераварот паступова ахоплівае ўвесь свет і праходзіць не па лініі ўласнасці-няўласнасці прадукцыі, а нарошчвання патэнцыялу дзеля элімінацыі простай чалавечай працы. Свайго роду бунт мазгоў супроць утомнасці рук.

Наша тут, у Беластоцкім краі, беларускасць у такім кантэксце паводзіць сябе, бы бусел на балоце, падкурчыўшы нагу. Знікненне недабойкаў сялянства ў нас вызначаецца цяпер працягам пятнаццаці гадоў. Фермерскія гаспадаркі з маянткавымі арэаламі не будуць аўтаномнымі ў бытавым значэнні вёскамі, а сцісла звязанымі з горадам нешматлікімі фірмамі. Этнічныя межы застануцца ўсяго ценямі гісторыі на старонках краязнаўчых кніжак.

У грамадска істотных маштабах стаім мы духоўна ўжо, папраўдзе, нагогул на адной той назе. На праваслаўі. Яно, аднак, паддасцца тым самым механізмам усеагульнае свядомасці, што і *мужыцкая мова*. Царква з гістарычна наслоеным комплексам **ritus rusticus** не ментальны канкурэнт фанабэрліваму **ritus dominus**.

Успомнім шаснаццатае стагоддзе ў старабеларускіх палацах і мяшчанскіх магістратах: перш пальшчызна, а затым і каталіцтва.

Крыху рэфлексіўных занатовак. У маё пасляваеннае дзяцінства ў Крынках азвацца па-польску і не быць высмеяным за гэта на вуліцы мог ксёндз, ураднік, або валакіта ў касцюме з гальштукам. Мінула паўвеку і ў хроснай мне купалавай святыні чую я дзівосна парадаксальнае ў тым жа местачковым натоўпе, што вяртаецца з нядзельнае багаслужбы дамоў: **Mamuśku, co baciuszka powiedział? — Opowiem ci w domu, córeczko.** Думаеце, хоць бабулі трымаюцца аўтахтоннай гутаркі? Ваша памылка. У іх, проста, няма на гэта шанцаў. Дзеці і ўнукі не пацерпяць. Талерантнасць у прасцякоў не існуе. Дзеля яе трэба патомнае культурнасці.

Дзевяноста шэсць працэнтаў ад усяго насельніцтва Польшчы хрысціцца ў касцёлах. Больш аднаго працэнта патанае ў грэшным атэізме. Рэшта — у тым ліку і праваслаўныя — трэба разумець, будзе пакутаваць у пекле за адшчапенства (найстрашней лютарацы). Псіхалагічная пазіцыя праваслаўя, натуральна, горшая з горшых. Пратэстанцтва не так балюча варушыць струны польскае душы, маючы ў сваіх культурных і палітычных здабытках прыгожыя старонкі ў мінулых падзеях Рэчы Паспалітай. Праваслаўе не! Знайдзіце прынамсі адну, сімпатычную яму, фразу ў падручніках. Праваслаўнаму вучню або салдату ў войску трэба амаль мужнасці, каб не таіцца з *няпанскай вераю*.

Капцы беларушчыне насыпаюцца. У некаторай адлегласці ад іх капаюць ямы і праваслаўю. Зусім не палякі, а тыя, якім нецярпіцца стацца імі. Яны трагічна наіўныя. Хаця, з другога боку гледзячы на іх, стаўшы нацыянальна-польскімі патрыётамі падсвядома імкнуцца тым самым да стопрацэнтнасці паланізму ў сабе. Праваслаўнаму паляку, як і беларусу-патрыёту Польшчы, нашмат цяжэй жывецца, бо ўсё мус даказваць адданасць Айчыне і ўсё не да канца давяраюць яму польскія браты-суседзі. А *стопрацэнтнік* пачуваецца вольна і свабодна, і ніхто яму не ставіць дурных запытанняў **w nocne Polaków rozmowy.**

Ці магчыма пераступіць дарогу памешчанеламу селяніну, які ідзе следам за даўнімі баярамі ў шляхецтва?

Магчыма, але не іначай як *адкурчыўшы другую нагу.* На адной куды можаш даскакаць? Бог жа адзін, у царкве ці ў касцёле, толькі абрады ў іх розныя і некаторыя кананічныя асаблівасці. Які дурань завозьмецца пярэчыць? Чаму праваслаўныя павінны ўпарціцца быць сабою — чыста тэалагічнае пытанне, недаступнае звычайнаму парафіяніну. Пакуль сярод католікаў не бракуе фанатыкаў, дык пэўна пачуццё асобнасці ў прыцаркоўных асяроддзях не слабее. Псіхалогія аблогі. А што будзе, калі тэрцыяркі надзеліць Бог розумам і перастануць яны змагацца за душы, слушна палічыўшы, што ўсё возьмуць не штурмам, а лічбавай перавагай і настроем **kochajmy się, mili bracia i siostry?!** Што тады зможа сказаць *батюшка?* Што — вон, прэч?!... Дзікуном на ўсю Еўропу і свет выйдзе.

Я згодны з тымі, хто цвердзіць, што праваслаўе вечнае. Таксама і ў нас. Але ж векавечнай застаецца і кожная культура, нягледзячы на знікненне яе стваральнікаў і носьбітаў. Агульнавядомым сведкам на гэту акалічнасць уся неабдымная антычнасць.

Мне як жывому беларусу слабое ад гэтага суцяшэнне.

# ПРЫВІД СТАНОВІЦЦА РЭАЛЬНАСЦЮ

*Працяг са стар. 1*

гаворыцца ў частцы другой артыкула 5 гэтага ж закона: „У выпадку, калі дзейнасць рэспубліканскіх прафесійных саюзаў, іхных аб'яднанняў супярэчыць канстытуцыі і законам РБ, яна можа быць забаронена рашэннем Вярхоўнага Суда па прадстаўленні Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь".

Генадзь Быкаў, старшыня Свабодных прафсаюзаў Беларусі, у інтэрв'ю для Радыё „Свабода" заявіў, што ад імя СПБ будзе пададзена ў Канстытуцыйны Суд прапанова ўзяць на разгляд гэты ўказ і прызнаць яго антыканстытуцыйным. Прафсаюзныя дзеячы звернуцца таксама да старшыні Вярхоўнага Савета Мячэслава Грыба, да Генеральнага пракурора і да дэмакратычных партый, каб сабраць 70 подпісаў і ініцыіраваць гэтую справу ў Канстытуцыйным Судзе. На думку Генадзя Быкава, увядзенне ў дзеянне гэтага ўказа будзе абазначаць увядзенне дыктатуры ў рэспубліцы.

Можна спадзявацца, што афіцыйная прапаганда апраўдае ўказ н-р 336 сотнямі прыкладаў парушэння заканадаўства дэпутатамі мясцовых саветаў, рознымі дробнымі і большымі злачынствамі народных абраннікаў. Але не падлягае сумненню, што ўказ накіраваны перш за ўсё супраць палітычных апанентаў прэзідэнта. Указ у самы бліжэйшы час можа мець канкрэтныя наступствы для паасобных дэпутатаў ад апазіцыі. Напрыклад, вясною пракуратура хацела ўзбудзіць крымінальную справу ў дачыненні да галоўнага рэдактара газеты „Свабода" Ігара Гермянчука. Падставай мела паслужыць публікацыя ананімнай паэмы „Лука Мудзішчаў прэзідэнт". Гэтыя захады былі прыпынены, паколькі рэдактара ахоўваў імунітэт дэпутата Вярхоўнага Савета. Сёння ўжо няма ніякіх перашкод, каб расправіцца з любым палітычным апанентам.

Рэпрэсіі ў адносінах да ўдзельнікаў страйкаў, выкліканых эканамічнай сітуацыяй працоўных калектываў, абвінавачванне апазіцыйных парламентарыяў у арганізаванні забастовак, прыняццё жорсткіх мераў супраць прафсаюзаў і адмена дэпутацкай недатыкальнасці ва ўмовах адсутнасці дзейснага парламента могуць прывесці толькі да яшчэ большага ўзмацненя пазіцыі прэзідэнта, які на практыцы не будзе падвяргацца ніякаму кантролю. А надзяленне шырэйшымі кампетэнцыямі рэпрэсіўных органаў можа ўвапхнуць Беларусь на бездарожжы ламання грамадзянскіх правоў. Апошнія падзеі сведчаць, што прывід паліцэйскай дзяржавы ў Беларусі пачынае набываць рэальны кшталт.

**Віталь Луба**

# З МІНУЛЫХ ДЗЁН

*(працяг; пачатак у 21 н-ры)*

### Сустрэча з саветамі

У зваротнай дарозе, праехаўшы недзе пад два кіламетры, грузавікі сустрэлі пяць савецкіх танкаў, якія гналіся ў заходнім напрамку. Машыны і танкі астанавіліся. Афіцэры, перамовіўшыся між сабою, адвялі мяне ў бок лесу і сталі дапытваць. Размова была вельмі непрыемная, кожны з камандзіраў хацеў нечага даведацца, але не давяралі ніводнаму майму слову. На іх думку, немагчымым было, каб нямецкі афіцэр адпусціў от так сабе мяне са штаба. Відаць, палічылі мяне нямецкім шпіёнам, бо сталі дапытвацца, якой дарогай я вяртаўся ад немцаў, якое атрымаў заданне, дзе мае сябры, як называецца той афіцэр, якім шляхам утрымліваю сувязь з немцамі. Усе мае тлумачэнні не пераконвалі савецтаў. Далей патрабавалі звестак пра колькасць нямецкіх салдат і іх узбраенне, тып танкаў. Расказваў я, што салдат тут многа, але сядзяць яны з кулямётамі і гарматамі ў акопах ды палічыць іх цяжка і што ў немцаў танкі жалезныя. Тады адзін з камандзіраў ускіпеў: „А ты видал деревянные танки?", ды стаў мне пералічваць назвы нямецкіх танкаў. Урэшце дайшлі да вываду, што гэта, мабыць, „Тыгры". Запытаў ён мяне: „А откуда ты знаешь, что это "Тигри"?", а я адказаў: „Нейкія нізкія яны, прысадзістыя быццам бабы ды маюць доўгую гармату". Афіцэр зарагатаў і сказаў: „Так видно, что не такой ты дурак, за которого хочешь притворяться".

Афіцэры загадалі мне ўдакладніць месца знаходжання нямецкіх войскаў. Я папрасіў у іх карту, на якой паказаў той хвойнік, дзе стаяў штаб, і навакольныя ўзгоркі з кулямётамі і гарматамі. Гэта таксама насцярожыла іх да маёй асобы, бо сталі распытвацца ці гэта немцы навучылі мяне чытаць ваенную карту. Калі расказаў, што гэтаму вучыўся ў польскай школе, афіцэры здзівіліся, што тут да 1939 г. была польская дзяржава. І зноў сталі дапытваць, чаму мяне немцы выпусцілі і з кім я сюды прыйшоў. Я ўсцяж паўтараў, што мяне выпусцілі аднаго і, мабыць, таму, што той нямецкі капітан быў добрым чалавекам. Камандзіры зноў насцярожыліся і сталі распытваць, адкуль ведаю намецкія ваенныя званні. Калі я растлумачыў, што за тры гады акупацыі можна навучыцца разбірацца ў афіцэрскіх званнях і што да гэтага афіцэра звярталіся *Herr Hauptman*, што значыць капітан, урэшце далі мне спакой. Адзін з афіцэраў загадаў радыётэлеграфісту наладзіць сувязь з іх камандаваннем і перадаць тэлеграму такога вось зместу: „Поймали немецкого разведчика. Немцы в силе 400 человек заняли рубеж высот (тут падаваліся нейкія лічбы), имеют два танка типа "Тигр"". Праз некалькі хвілін радыётэлеграфіст перадаў афіцэрам загад са штаба. Адзін з афіцэраў сказаў сваім калегам: „Товарищи, боевая задача от командира полка: любой ценой и силою уничтожить врага. Все по машинам!"

У той час, калі мяне дапытвалі, экіпажы танкаў ды чырвонаармейцы былі заняты ліквідацыяй нямецкіх слядоў. У 15—20 метрах ад гасцінца знаходзіўся агароджаны ў адну жэрдку свежы могільнік, на якім высіліся пятнаццаць драўляных крыжоў упрыгожаных нямецкімі шлемамі. Савецкія салдаты, каб дарма не траціць час, уехалі танкам на гэты могільнік, паламалі агароджу і крыжы, а магілы гусеніцамі зраўнялі з зямлёй.

Мяне пасадзілі на першы танк, спераду, пад гарматай. Калі я стаў прасіцца, каб узялі ў сярэдзіну, мне рэзка адказалі: „Тебе говорят садиться, тогда садись и не... (у гэтым месцы пайшоў сакавіты мат). Германцы ведь знают, что ты свой. Они по своих не стреляют". Мае пратэсты, што я для немцаў не свой, што я — мясцовы жыхар, ні ў чым не памаглі. Мяне папярэдзілі яшчэ, што калі надумаюся ўцякаць, тады пачнуць страляць па мне. Камандзір сказаў: „Когда дорогая тебе жизнь, тогда садись на танк и веди прямо к немцам".

Усё мне тады стала зразумелым хто ёсць кім. Адразу мне ўспомнілася, як патрактавалі мяне ворагі, а як тыя, якія лічылі сябе сваімі, прыяцелямі, вызвалецелямі. Не, гэта не былі ані свае, ані вызвалецелі. Гэта была нейкая дзікая, азвярэлая, чалавекападобная ватага злачынцаў!!!

Першы рушыў мой танк, а за ім у адлегласці мо 50 метраў астатнія чатыры танкі, ачэпленыя чырвонаармейцамі. Камандзір танка раз-пораз выхіляўся з люка і дапытваўся пра месца прабывання немцаў. Калі я паказаў хвойнік на хутары Алішкевіча, адразу зварухнулася танкавая гармата. Мне стала ясна, што зараз будуць страляць і я пальцамі заткнуў вушы ды разявіў рот. Грымнуў выстрал і ў хвойніку ўзнёсся слуп дыму там, дзе знаходзіўся нямецкі штаб. У гэтую ж хвіліну ў 20—30 метрах ад танка разарваўся нямецкі снарад. Савецкі афіцэр крыкнуў у мой бок: „Уходи с танка, прыгай!" Саскочыў я хуценька ды скрыўся ў прыдарожнай канаве. Танкі паімчаліся наперад, за імі пабегла пяхота, а я малымі скокамі стаў уцякаць у адваротным напрамку, хаваючыся ад куляў у прыдарожным рове. Вярнуўся я дахаты без каня і без трафеяў.

*(заканчэнне будзе)*

**Юстын Пракаповіч**

Новыя вершы

## Без сораму

Дождж змывае нашыя слёзы
пальцы
павольна
з мяккім пачуццём
цалуюць вусны
вочы
валасы
углыбленне ў шыі
крылы мне растуць
мы беглі
і ноч нас накрыла
голыя без сораму як у сне
нібыта белыя коні ў начной чорнасці
на траве
духмянай чырвоным вінам
адпачывалі
ўслухоўваючыся у цішыню
раніцы.

* * *

Прыйдзе такі час
я ведаю
такі момант
што...
на дарозе майго жыцця
знайду малое
маленькае
але ўласнае
пристанішча мудрасці
будзе яно „голае”
таямнічае
як шаленства жыцця
без цугляў
ярма людскога
там...
засею маю кветку вечнасці
і пабудую дом з бурштыну
дзе...
у бляску мар
дзень вызваляе жыццё
з няволі ценю
вялікі свет
для яшчэ „малых” людзей
а ўсё гэта
ва ўцёку перад здзекам
перад здзекам кінутым мне ў твар
якога не забываецца
таму што
рана развярэджваецца
і
разрэзвае жыццё
толькі што
забываючы аб райскім спакоі
магу быць змяёй
але
сіла волі робіць мяне анёлам
таму кожны ўдар
не баліць ужо.

**Івона Марціновіч**

# Пачатак навучальнага года ў Бельску

Агульнаадукацыйны ліцэй імя Браніслава Тарашкевіча і Пачатковая школа н-р 3 у Бельску-Падляшскім як спалучаныя сасуды. І то не толькі таму, што размясціліся яны па-суседску, часткова нават у адным будынку. Перш за ўсё таму, што гэтыя школы дапаўняюцца, большасць абітурыентаў „тройкі” працягвае вучобу ў Ліцэі Тарашкевіча. Сёлета, для прыкладу, на 121 першакласнікаў ліцэя, аж 75 асоб, гэта выпускнікі „тройкі”.

Летась белліцэй адзначыў сваё 50-годдзе, а сёлета юбілей у „тройкі”, якая пачала працу роўна 30 гадоў таму. За гэты час выпусціла яна ў свет 68 аддзелаў, у якіх было 2 124 вучні. Цяпер у „тройцы” 972 вучні, у 36 аддзелах (усе, вядома, з другога класа вывучаюць беларускую мову). Сярод сёлетніх першакласнікаў праз восем гадоў будзе трохтысячны выпускнік школы. Таксама адзін з цяперашніх першых класаў будзе сотым там выпускам.

Шчаслiва склалася, што да юбілею Пачатковай школы н-р 3 закончылася пабудова пры ёй гімнастычнай залы. У ёй менавіта прайшло ўрачыстае адкрыццё навучальнага года. Як паінфармаваў дырэктар Васіль Ляшчынскі, план урокаў так складзены, каб кожны клас змог займацца фізічным выхаваннем якраз у новай, прыгожай гімнастычнай зале.

На ўрачыстасць адкрыцця школьнага года ў Ліцэй імя Тарашкевіча прыбылі ганаровыя госці: бурмістр Бельска Андрэй Сцепанюк, які яшчэ не так даўно працаваў там настаўнікам беларускай мовы і айцец Юры Такарэўскі, благачынны бельскага дэканата Праваслаўнай царквы. Абодва госці — абітурыенты белліцэя. Абодва яны ў сваіх каротkіх выступленнях падкрэслівалі высокую пазіцыю школы, жадалі моладзі поспехаў у навуцы і прасілі не забываць спецыфіку школы і яе багатую традыцыю.

Дырэктар ліцэя Зінада Навіцкая, звяртаючыся да вучняў, падкрэслівала, што найважнейшае іх заданне, гэта цяжкая праца. „Настойліва працаваць трэба ў кожным класе, але асабліва ў чацвёртым. Там абсалютна не можам страціць ні хвіліны, — казала пані дырэктар. — У сённяшнім свеце няма месца для слабых, пасрэдных. Вы павінны быць найлепшымі. Я веру, што вы зможаце гэтага дабіцца”.

У сваёй прамове дырэктар Навіцкая звярнула ўвагу на нацыянальнае ўзгадаванне моладзі: „У гэтым годзе мы павінны больш актыўна гаварыць пра нашу беларускасць. Хаця можа яшчэ сёння здаецца гэта некаму сарамлівым, але ён павінен ведаць, якую школу выбраў. Мы мусім захоўваць нашу спадчыну, падтрымліваць нацыянальную тоеснасць. Я ўсё часцей звяртаюся да вас з беларускім словам. Думаю, гэта дапаможа вам пераступіць некаторыя бар'еры”.

**Мікола Ваўранюк**

# СШЫТАК Н-Р 3

Толькі што выйшаў з друку чарговы, трэці ўжо *Беларускі гістарычны сшытак*, які выдаецца Беларускім гістарычным таварыствам. Так як у папярэдніх выданнях, апрача артыкулаў змешчаны ў ім гістарычныя крыніцы для даследавання мінулага Беласточчыны, біяграфіі Язэпа Есьмана, Міколы Дзямідава, Ярослава Кастыцэвіча і рэцэнзіі на выдадзеныя ў апошнім часе і прысвечаныя гісторыі Беларусі і беларусаў кніжкі.

Змест артыкулаў у гэтым *Сшытку* вельмі разнастайны. Аляксей Шаланда піша пра паходжанне гербу Хадкевічаў, Мажэна Лідкэ — пра культурныя і моўныя пераўтварэнні сярод шляхты Вялікага княства Літоўскага ў шаснаццатым стагоддзі, Антон Мірановіч — пра генеалагічныя даследаванні Міхаіла Шанцілы, які жыў у васемнаццатым стагоддзі, Ар'юш Малэк прадстаўляе гісторыю Бельска-Падляшскага падчас прускага панавання ў 1795—1807 гадах, Ірэна Матус піша пра перасяленне беларускага насельніцтва з Беласточчыны ў Савецкі Саюз пасля заканчэння ІІ сусветнай вайны, Славамір Іванюк — пра беларускую самаахову на Беласточчыне у 1945—1947 гадах, Лена Глагоўская — пра сітуацыю беларусаў, якія пасля вайны апынуліся на Прымор'і, Яўген Мірановіч — пра адносіны народнай улады да беларусаў Беласточчыны ў 1945—1956 гадах, Эльжбета Чыквін прадстаўляе вынікі сацыялагічных даследаванняў сярод польскай моладзі на тэму яе талерантнасці, Станіслаў Александровіч даказвае патрэбу падрыхтоўкі новай апрацоўкі гісторыі Беларусі.

Вельмі выртасны матэрыял падрыхтаваў Славамір Іванюк, які змясціў анкетныя даныя членаў гарадскіх і гмінных рад Бельскага павета ў 1945 г. Пры кожным прозвішчы была тады памечана нацыянальнасць і веравызнанне. Гэты матэрыял паказвае вельмі выразна, што ў рады народнай улады аднолькава ахвотна ішлі так праваслаўныя, як і каталікі, беларусы і палякі. Хлусня, якою кормяць чытачоў беластоцкія журналісты і гісторыкі, што быццам бы ўся ўлада на тэрыторыі ўсходняй Беласточчыны была ў руках беларусаў, не мае ніякага пацвярджэння ў дакументах. Славамір Іванюк даказаў, што працэнт палякаў у структурах народнай улады быў нават большы, чым іх удзел у агульнай колькасці насельніцтва паасобных гмін.

рэд.

# БЕЛАРУСЬ У ФОТААБ'ЕКТЫВЕ КОНСУЛА

31 жніўня ў Цэнтры ўсходніх даследаванняў (Ośrodek Studiów Wschodnich) у Варшаве была адкрыта выстаўка фатаграфіі аўтарства консула Рэчы Паспалітай у Менску Марка Зюлкоўскага, прысвечаная сучаснай Беларусі. Ураканне ад гэтай выстаўкі, якое складаецца ў гледача, не заахвочвае яго наведваць Беларусь. На фатаздымках відаць краіну быццам бы пасля нейкага катаклізму. Брудныя людзі, развалены палацы і касцёлы. Цэркваў вельмі мала, быццам бы выступалі яны ў краявідзе Беларусі ў прыкметнай меншасці. Найбольш жахлівае ўражанне ў гледача выклікае частка выстаўкі, азагалоўлена „Зона”, якая прадстаўляе тэрыторыю, найбольш забруджаную радыяцыяй пасля чарнобыльскай катастрофы. Здымкі са святкавання пяцідзесятай гадавіны Дня перамогі над фашызмам, якіх характэрнай прыкметай ёсць натоўп ветэранаў з партрэтамі Сталіна, з'яўляюцца ў нейкай ступені інтэрпрэтацыяй сучаснай палітычнай сітуацыі ў краіне. Узровень тэхнічнай цывілізацыі прадстаўлены на здымках як бы з мінулага стагоддзя. Няма сумнення, Беларусь гэта не Швейцарыя, а пануючы там таталітарны рэжым стварае дзяржаве найгоршы палітычны імідж у Еўропе, але апрача бальшавікоў з партрэтамі Сталіна і чырвонымі сцягамі ёсць вялікі працэнт грамадства, шчыра зацікаўленага дэмакратычнымі пераўтварэннямі. Апрача развaленых касцёлаў і палацаў ёсць яшчэ і толькі што адрамантаваныя, а апрача таго над краявідам Беларусі дамінуюць купалы цэркваў. Апрача люмпену ёсць яшчэ ў гарадах шмат прыгожых дзяўчат, якіх у такой колькасці не сустракаецца ў іншых краінах Еўропы. Крыжы не толькі ляжаць пры дарогах і зарастаюць мохам, але ставяцца таксама новыя. Людзі памятаюць і нараджаюцца. Там яшчэ жыццё б'е крыніцай. На здымках відаць толькі паміраючую краіну, але Беларусь у сапраўднасці не ёсць ні такая архаічная, ні такая кашмарная.

рэд.




## Барыс Руско

Яшчэ адзін талент паявіўся,
У „Ніве” ён раскруціўся,
Піша цікавыя вершы,
Каб пападалі на грунт найлепшы.
Радзіма яго — Белавежа і пушча.
Паэзія Руско — хлеба луста,
Каб мы яе са смакам прымалі,
Радзіму сваю праслаўлялі.
Чуваць філасофскія матывы,
Патрэбныя як марскія прылівы,
Каб, як месяц, нам сілу даў з вышыні,
Каб мову ад цемры сваю бараніць.
Наш народ, быццам мора прыліў:
Дзе чужое свята, ён туды і паплыў,
Аб чым выразна піша паэт
Ад некалькіх буйных ужо лет.
Хаця Руско мае свае гады,
Паэт з яго яшчэ малады,
На ніве роднай з'явіўся нядаўна —
Паэзію мудрую піша ён слаўна.
Чуваць філасофскае тут вучэнне,
Крыніцу асветы і цемры бурэнне.
Яго верш дынамічны, з назвалай
прыроды,
Аб праўдзе, няпраўдзе і зменах пагоды:
Аб холадзе, спёцы, марозе, цішы...
Друг мой! Надалей так цікава пішы!
Пра магутнасць і слабасць,
Пра няўдачы і радасць,
Як праз недаступнае ісці,
Як нам духоўна расці.
Аб „глыбіні пустыні”
І аб цудоўнай далiне
У „нямой кашулі”.
Каб усе пачулі
Што ёсць „Асенняя дарога”,
Якая вядзе да цудоўнага парога.
Барыс Руско — майстар афарызмаў,
Піша з цудоўным рэалізмам,
Каротка і метка, без махлярства.
Яго „Сентэнцыі” — найлепшае
лякарства.
„Калі кахаеш — маўчы, — для мяне
урок —
Тады найбольш скажаш” — сказаў наш
прарок.

**Мікалай Панфілюк**

# Візіт маладых гісторыкаў з Беларусі

Форум Цэнтральна-Усходняй Еўропы ўзнік пры Фондзе Стэфана Баторыя ў лістападзе 1989 года. З гэтага часу Форум дзейнічае на карысць збліжэння між краінамі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ды пабудовы ўзаемапаразумення і добрасуседскіх адносін між народамі і грамадствамі ў гэтым рэгіёне. Пастаўленую сабе мэту Форум рэалізуе, між іншым, арганізуючы сустрэчы прадстаўнікоў розных асяроддзяў з суседніх краін. „Мы лічым, што непасрэдныя кантакты, спатканні і дыскусіі прадстаўнікоў свету палітыкі і гаспадаркі, навукі і культуры, — чытаем у інфармацыйным буклеце, — гэта важны элемент у працэсе загладжвання непаразуменняў, змагання з ксенафобіяй і прадузятасцямі, а таксама ў супольных пошуках выхаду з крызісу, у якім апынуліся ўсе краіны рэгіёна”.

На запрашэнні Форуму ў днях 28.08.—2.09 пабывалі ў Польшчы дзесяць маладых гісторыкаў з Беларусі. У праграме візіту былі сустрэчы з выдатнымі польскімі навукоўцамі, азнаямленне з навейшымі здабыткамі польскай гістарыяграфіі ды метадамі вывучання Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Два першыя дні візіту прайшлі на Беласточчыне, дзе госці знаёміліся з рэаліямі, у якіх жывуць і працуюць польскія беларусы.

29 жніўня ў Філіяле Варшаўскага універсітэта адбылася сустрэча з Беларускім гістарычным таварыствам. Дыскусію вёў, папярэдзіўшы яе ўводным словам, д-р Антон Міраноviч. У сваім дакладзе д-р Міраноvіч прывёў прыклады значных падзей нашай мінуўшчыны, наконт якіх беларуская гістарычная навука ўсё яшчэ не выпрацавала свайго погляду: дзяржаўныя польска-літоўскія уніі, царкоўныя уніі, спробы пабудовы незалежнасці Вялікага княства Літоўскага ў XVII ст. і ў Напалеонаўскую эпоху, падзелы Рэчы Паспалітай, намаганні эліты будаваць сваю дзяржаву ў час I і II сусветных войнаў. У апісанні гэтых фактаў дамінуюць ацэнкі дадзеныя суседзямі.

Госці з Беларусі ў дыскусіі гаварылі пра цяжкасці, якія спатыкаюць там гістарычную навуку. Гэта ўсё яшчэ жывая савецкая спадчына з яе метадалагічным падыходам: спачатку набор лозунгаў (слушных з пункту гледжання бягучай палітыкі), а потым падтасоўка пад іх фактаў. Гэта таксама недахоп інтэлектуальнага патэнцыялу ды абсалютная незацікаўленасць дзяржавы ў падтрымцы распрацоўкі вялікіх даследчыцкіх праграм. Але ёсць і станоўчыя зрухі. „З перспектывы Беласточчыны, мажліва, беларуская гістарыяграфія бачыцца як маналіт, — казаў Алег Дзярновіч з Інстытута гісторыі Беларускай акадэміі навук, — але ў сапраўднасці існуюць розныя даследчыцкія цэнтры, як і тэндэнцыі. Я бачу, што вы на Беласточчыне больш увагі прысвячаеце вывучэнню гісторыі нацыі, калі ў нас усё больш намаганняў прыкладаецца да вывучэння Беларусі як суб'екта гісторыі”.

На пытанне Яўгена Міраноvіча пра свабоду карыстання архівамі прагучаў адказ: „У асноўным можна ўзяць усё”. Але архіў КДБ яшчэ закрыты. Ёсць таксама некаторыя сакрэтныя фонды, доступ да якіх абмежаваны.

Юрка Каліна запрэзентаваў выдавецтвы Беларускага гістарычнага таварыства і заклікаў даваць матэрыялы ў „Беларускія гістарычныя сшыткі”. Алег Латышонак прасіў дасылаць усе знойдзеныя ў архівах Беларусі інфармацыі, якія тычацца Беласточчыны.

**М. В.**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# У новым прадшколлі

1 верасня г.г. у Беластоку пачало працаваць польска-беларускае прадшколле.

Раніцай, ва ўсіх аддзелах, можна было пачуць многіх плаксаў, якія не хацелі развітацца з бацькамі. У дадатак скажу, што галасілі амаль самыя хлопцы.

У-у-у! — дражнілі сваіх сяброў дзяўчынкі. Яны першыя ўзяліся суцішаць сваіх хлопчыкаў.

— Дай ручку, гуляць пойдзем, — прапанавала трохгадовая Волечка старэйшаму на два гады Міхасю. Пасля першых, супольных гадзін дзеці не толькі добра гулялі, але і дружна елі абед. Пазней пазнаёміліся з „Зоркай". Праўда, нялёгка было сабраць усіх у адно месца і зрабіць здымак.

— Дзеці будуць развучваць беларускія песні, казкі і вершыкі, — сказала выхавацельніца Альжбета Чыжэўская. Апрача яе ў прадшколлі працуе тры маладыя настаўніцы: Альжбета Бурачэўская, Эва Гняздоўская і Галіна Іванюк. Апошняя з іх вядомая на Беласточчыне як славутая салістка гурту „Дубіны".

У дзіцячы садзік запісалася 44 дзетак. Дзеці будуць займацца ў двух аддзелах. Амаль усе яны з Беластока. Выключэнне складаюць Ігар і Міхась, якіх бацькі давозяць з Тапільца.

Усім дзецям і настаўнікам „Зорка" жадае ўдалага навучальнага года.

З-ка
фота Г.К.



*Настаўніцы са сваімі дашкольнікамі.*



*— Дай ручку, гуляць пойдзем...*



*Дзеці не толькі гулялі, але і дружна елі абед.*

## Птушкі

Шэры, шэры верабей
Скача на камснні.
Эй, хадзі да нас хутчэй,
Дамо кашы жмсню!

Намалюю птаха-цуд,
З выглядам арліным,
Потым вокны адчыню,
Хай імчыць у вырай,

Або разам з вераб'ём
Прыляціць у хату.
Разам з імі запяём
Прывітанне тату.

## Плямкі-плюмкі

Плім-плям, плім-плям,
З пэндзля пляма: плюм!
Пляма-пляма-плям!
Пляма-пляма-плюм!
З пэндзля кропля: плям...

Бачу я зялёны ліст,
Ліст кляновы —
Ліст вясенні.
Ліст кляновы каляровы —
Ліст асенні.
Пальцы клёна у пяшчоце:
Пень і веткі у палёце,
Я — малюю.

А маёй зялёнай жабцы,
Што пад клёнам,
Намалюю кіпці-драпці,
Усё чырвоным.
Дамалюю вусны-кветкі
І карону.
Хай чакае запаветнай
Казкі новай.

Пацалуе пэндзаль жабку
У гарошак.
Будзе жабка як макатка —
Ой, не горшай.
Дам малюнак вам павесіць
У пакоі,
Хай ён вочы усім цешыць,
Непакоіць.
Хай пытанне, каму трэба,
Роцік паліць:
Ці бывае ў макі неба,
Як Наталлі?!

## Стукі-пукі

Шпак са шпачыхай селі на бук.
На грабе дзяцел усё „стук!" ды „пук!"
Шпаку шпачыха чырык: „Ці так
Птах свой павінен нішчыць дзюбак?!
Драч ці варона? Бусел ці грак?!
Дзюбаць у корань, пень альбо сук?!
Каб нос скрывіўся раптам у крук?!"

**Міра Лукша**

# Польска-беларуская крыжаванка

У клетачкі ўпішыце беларускія словы, якіх значэнне даюцца на польскай мове. Дашліце рашэнні ў „Зорку". Тут разыграем узнагароды — каляровыя фламастэры.

З-ка

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| RZEKA | ↓ | OJCIEC | ↓ | GWIAZDKA ALBO NASZA GAZETKA | ↓ |
| | | | | | |
| KOZA ↳ | | ZĄB ↓ | | | |
| | | | | ZAKĄTEK albo ZAŚCIANEK ← | |
| PIES ↳ | | | | | |
| | | | | | |

# Вясёлы куточак

Сустракаюцца два сябры:
— Ідзеш пагуляць у мяч?
— Не магу: а трэцяй іду ў кіно.
— Цяпер жа першая...
— Гэта так, толькі дзве гадзіны мушу прасіць бацькоў, каб далі грошы на білет.

* * *

Коля скардзіцца маці, якая мые бялізну:
— Мама, Кася цягае мяне за валасы!
— Даруй ёй, яна маленькая і не ведае што табе баліць.
Праз некалькі хвілін раздаецца крык маленькай Касі.
— Што сталася? — устрывожана пытае маці.
— Нічога, — адказвае Коля. — Кася даведалася, што цягнуць за валасы баліць.

* * *

— Назаві чатыры стыхіі, — звяртаецца да Казіка настаўнік.
— Агонь, зямля, паветра ііі...
— Ну, а чым мыеш рукі? — стараецца падказаць настаўнік.
— А! Мыла!

**Даслаў Андрэй Гаўрылюк**

# Увага, конкурс!

Назавіце двух паэтаў і двух празаікаў, членаў літаратурна-мастацкага аб'яднання „Белавежа”.

Калі дашлеце правільныя адказы, вы зможаце выйграць касету рок-гурту **„Брага”.**

**З-ка**

# Юныя журналісты



Крыстафор Яканюк, Андрэй Казёл і Міхась Сцепанюк пад кірункам Лены Глагоўскай пазнавалі тайны журналістыкі. Сталыя чытачы „Зоркі” напэўна заўважылі цікавы і змястоўны артыкул гэтых аўтараў „Наш крыж у Меляшках”. Зараз прапаную дакладней пазнаёміцца з нашымі карэспандэнтамі.

Крыстафор родам з Крывой. У гэтым годзе перасяліўся ў Беласток, дзе пайшоў у Пачатковую школу н-р 2. Раней вучыўся ў бельскай „тройцы”, у славутым IV „е”.

— Шкада, што трэба развітацца са сваім класам. Цяпер будзем сустракацца, дзякуючы „Зорцы”, — сказаў хлопец.

Крыстафор і далей будзе супрацоўнічаць з нашай дзіцячай старонкай. Сам ён выдатнік і вельмі цікавы хлопец.

Міхась Сцепанюк таксама з бельскай „тройкі”. Разам з Крыстафорам хадзілі ў адзін клас. Зараз хлопец вучыцца ў V „е”.

Міхась не толькі цікава піша, але і малюе. Ён таксама выдатнік. Чытачы „Зоркі” мелі не раз нагоду чытаць яговыя карэспандэнцыі.

Андрэй Казёл родам з Гарадка. З „Зоркай” пазнаёміўся ў час Міжнацыянальных сустрэч на Сувальшчыне.

Андрэй мае душу паэта.

— Калі хачу пра нешта пісаць, то найлягчэй выходзіць мне верш, — прызнаўся хлопец. Сам ён у шостым класе, і як адзін з нямногіх ходзіць на ўрокі беларускай мовы.

Разам з хлопцамі працавала Лена Глагоўская. Спадарыня Глагоўская навуковы супрацоўнік Гданьскага універсітэта. Яна таксама вядомая як карэспандэнт „Нівы” і „Часопіса”.

— Мне проста не хацелася верыць, што ёсць у нас яшчэ такія таленавітыя дзеці, — адзначыла яна, пасля працы з юнымі журналістамі.

**Тэкст і фота Г.К.**

# Вершы Віктара Шведа

### Над морам

Натальку сон не морыць
У доме адпачынку.
Шуміць страшэнна мора,
Грукоча безупынку.

Не хоча спаць Наталля,
Да поўначы марудзіць.
— Таму ж так плачуць хвалі,
Што спаць пайшлі ўсе людзі.

### На сустрэчу з сірэнкай

Рана, рана ўстала Ната,
Глянула на неба,
Адазвалася да таты:
— Над мора йсці трэба.

Там цікаўнейшае ўсенька,
Прывітаем мора,
З хваль мо вынырне сірэнка,
З ёю пагаворым.



### Наталля ў марскіх хвалях

Апынулася Наталля
У мора цёплых хвалях.
І вельмі ёй цікава
Як навучыцца плаваць.

Ды штосьці ўсё бясконца
Цягне Наталлю донца.
— Пільнуй мяне, мамуся,
Бо раптам утаплюся!

# ДЗІЦЯЧЫЯ МАЛЮНКІ



*Малюнак Паўліка Кубаеўскага з Орлі (VI клас).*

# ЛЕГЕНДЫ БЕЛАСТОЦКАЙ ЗЯМЛІ

## Галавой наложыш

Калі тое было? А хто ж яго згадае! Мо яшчэ ў тыя незапамятныя часы, калі рака Сакалда цякла тым пакручастым старым рэчышчам, што цяпер Зэглерыхай завуць?..

Каля лясной рачулкі Лангі, прытоку Сакалды, усё ў адным і тым самым месцы кожны год позняй восенню вечар у вечар агонь нейкі людзям паказваўся. Выкаціцца недзе з гушчарніку на палянку, пад старыя дубы, і круціцца. То падбяжыць, то падскочыць і рознымі колерамі аж зіхаціць.

Старыя людзі, агледзеўшы гэтае дзіва, меркавалі:

— Няйнакш, у закапаным скарбе чэрці золата перасушваюць. Багата яго там, пэўна, калі агонь такі вялікі ды іскрысты. — Падумаўшы, перасцерагалі маладых: — Няпраўдай той скарб закладзены, таму і смерці патрабуе...

Доўгі час з'яўляўся той агонь, але ніхто з мясцовых людзей, нават самых зухаватых, не наважыўся шукаць ды адкопваць той скарб.

Ды вось валэндаўся па тамашніх вёсках чужынец з сабакаю. Людзі не столькі валацугу дзівавaліся, колькі гэтаму сабаку. Нада ж ён верны быў свайму гаспадару: даволі крывым вокам на валацугу глянуць, як сабака з зубамі кідаўся. Ён з найгоршай крэкацы лясной чужынца выводзіў, нікога да яго не падпускаў, калі той, як часценька бывала, п'яны пад платамі валяўся.

Пачуўшы згадку пра скарб, прыблуда разведаў як, што і дзе ды паваломкся вечаркам на Лангу, падпільнаваў агеньчык і пачаў капаць.

Капаў ён, капаў колькі часу, а сабака ад яго ні на крок не адступаўся: то лапамі дзёр — гаспадару свайму дапамагаў, то нюхаў ды пырхаў, паказваючы, дзе нешта закапанае затаілася. Гэтак і дакапаліся яны да гаршка.

Адкрыў прыблуда гаршчок, а там паверх зіяючага золата запіска ляжыць: „Мяне возьмеш — галавой наложыш”. Тут ён і задумаўся ды зажурыўся. Сабака ж таксама закруціўся вакол ямы, як быццам здагадаўся, што яговы гаспадар у клопаце. А валацуга раптам павесялеў: схапіў сабаку, адсек яму лапатай галаву ды паклаў у гаршчок на месцы золата, што сабе ў торбу ўсыпаў.

Засыпаў валацуга ямку ды, ног пад сабой не чуючы ад радасці, паімчаўся ў карчму, што тады за рэчкаю, напрыканцы вёскі Сакалды стаяла. Бег жа ён не торнаю дарогаю, але нацянькі, праз здрої на Зэглерысе, не зважаючы на багну ды дрыгву. Відаць, надта ж яму спешна было да кварты гарэлкі. Бегучы, нават не заўважыў, як у адкрытае жарало ўваліўся.

Рвануўся валацуга ў адзін бок, рвануўся ў другі, а золата ўсё глыбей яго ў твань цягне. Спрабаваў ён скінуць тую торбу са скарбам, але багна ўжо па шыю засмактала. Закрычаў прыблуда дзівосным голасам:

— Ра-а-атуйце-е...

Ды той крык патануў разам з ім, толькі бурбалкі з жыжы выскачылі і шапка-малахай усплыла.

Адно праз колькі часу наткнуліся людзі на косці зарубанага сабакі, запіску ды згніўшую шапку на здроях.

— І што далей? — запытаеце.

— Ну, што ж, кажуць: болей не з'яўляўся агонь на Ланзе, не паказваўся ён і на Зэглерысе. Відаць, золата, на чалавечую нікчэмнасць наглядзеўшыся, назаўсёды ў прорву канула. Нават чэрці не захацелі яго адтуль даставаць ды перасушваць. Затое людзі тую дрыгву асушылі, заралі ды засеялі травою. Цяпер улетку ды пад восень стракацяць там касілкі і невядома, дзе тыя здрої былі.

**Пачуў і пераказаў Мікола Гайддук**

# Вершы з антыподаў

У мой век, у мае гады (85 гадоў!) не вершы пісаць трэба, тым больш не лірыку і не пра каханне, а ўспаміны, мемуары. Многа мною пражыта і вельмі многа пережыта ў розных краінах на чатырох кантынентах за 56 гадоў. Многа зведана гора і вельмі мала радасці... А вось на старыя гады, як кажуць людзі, здзецінеў чалавек, ды пішу гэтыя „вершы" не як лірыку, а як боль душы, цяжкае перажыванне за свой народ, за свой родны край, што мяне ўзгадаваў, ускарміў, але чужыя гаспадары выгналі ў чужы далёкі свет.

А там на радзіме засталіся мае карані, мае блізкія і далёкія крэўныя, родзічы. У іх цяжкае зараз жыццё. Ведаю, што на маёй радзіме, у цяперашняй РБ, многія беларускамоўныя газеты і часопісы не выходзяць. Моцная палітычная цэнзура і неспрыяльнае эканамічнае і палітычнае становішча для беларускага друку. Мне ўдалося ўсё ж надрукаваць шэсць вершаў у „ЛіМе" ад 31 сакавіка 1995 г. і ў сёлетнім „Полымі" н-р 6 пачала друкавацца „Мая Адысея". Няма дзе друкавацца сваім паэтам і пісьменнікам. Таму дасылаю пакунак маленькіх „вершаў" у вашу газету „Ніва". Калі нешта знойдзеце вартае, то мажліва надрукуеце?

З пашанай

**Сымон Шаўцоў,**
**Аўстралія**

## Я вярнуся да цябе

Перад тым, як памерці
я вярнуся к табе
родны край, родны кут.
Ты прымі, прыгарні,
пашкадуй, не праганяй,
я хачу памерці тут.
У сэрцы маім так балюча,
гору майму спачувай.
Я веру, твае гарачыя вусны
здымуць і гора, і боль,
мой нявольны зман.
Твае натруджаныя рукі
ласкава абдымуць
мой кволы, замораны стан.
Аднова ажыву я,
прачнуся ад забыцця
і стану шчаслівым і дзейным
да самага скону жыцця.
Я ведаю, што мне ты даруеш
мае праграшэнні
нявольна зробленыя мной.
Я застануся да скону
з мілай радзімай маёй.

* * *

Настаў апошні час
ці жыць табе
ці згінуць?
У ліхалецці цябе закруціла,
рукі і ногі недугам скруціла.
Душа знямоглая і дух упаў.
Змагайся за жыццё —
гэта апошні час настаў.

* * *

Пранеслася смяротная навала
над краем ізноў.
Усё скаваў мароз з Усходу.
Усё маўчыць...
Птушкі не спяваюць,
завея злосная віруе,
ні людзей, ні жывёлы,
ні птахаў не жалуе.

## Просьба да ўнука

Я прычына твайго нараджэння,
унучак.
Каб я не спарадзіў твайго татку
не было б і цябе.
Помні пра дзеда,
мой саколік.
Нашу размову
вечна беражы.
Прыйдзе час і ты пабудзеш
у тым Краю,
дзе народжан твой дзед.
Стань на калені там,
Богу памаліся.
Успомні дзедаў табе апавед.

* * *

Я так далёка ад цябе,
За Ціхім акіянам,
у чужым краю на волі.
Я бачу, прадаюць цябе
ў цяжкую няволю.
Я плачу па сваёй айчыне,
роднай Беларусі.
Вярнуцца ў родны край
цяпер я мушу.

* * *

Заўсёды былі мы прыстрэлены.
Стралялі па нас
многа раз.
Не толькі чужыя,
а больш свае „браты".
Ці памятаеш ты?

* * *

З выраю ляцяць дадому жураўы,
Ляцяць дадому гусі,
Родзіна ў іх Беларусь.
Хіба я горшы за іх,
Думаеце вы?
Выгнаннік паняволі,
Шукаю шлях і час свой
вярнуцца дамоў.
Яны ляцяць і мне крычаць:
„Ляці і ты з намі!
Ляцім разам на радзіму!
Як ты, і мы Божае стварэнне,
У нас і ў цябе адно імкненне —
Жыць там, дзе нарадзіліся".

## Даруй, Матуля!

Матуля родная,
даруй мне —
не шанаваў твае ласкі,
твайго заступніцтва —
маё нікчэмнае жыццё.
Грашыў, здрадзіў табе,
страціў веру ў Хрыста.
Прашу, даруйце мне,
мой Бог і ты, матуля.
Хто ж пашкадуе і прытуліць?
Толькі Вы, мусіць?
Клянуся Небам і Зямлёй:
Ніхто здрадзіць вам
мяне не прымусіць.

* * *

Выгнаннікі з свайго краю
прыйдуць ізноў у свае хаты.
Яны зберагуць і мову, і веру,
і нашыя святы.
Выжылі ў выгнанні,
выжылі ў змаганні
астатнія з магікан.
Вернуцца на бацькаўскі палетак,
прывязуць з сабою сваіх дзетак.

* * *

Беларусь! У цябе і мова твая —
не свая ўласная,
не беларуская,
а чужая — калгасная.
Ды і сам сабе ты, беларус,
селянін не ўласны,
а раб калгасны.

## На вас надзея

Адна толькі на вас надзея, —
пісьменнікі, паэты, мастакі,
настаўнікі, артысты, спевакі:
Вы не згубіце роднага слова,
не загіне матчынае слова,
покуль будзеце вы.
Песень, што спявалі ўсе вякі
нашыя бабулі, маці, сёстры, сваякі
забыцца хочуць „новыя сынкі".
Расчульце іх цвёрдыя сэрцы.
Не дайце матчынай мове памерці.
Адшчапенцы — „Сашкі", „Лукашы"
чужынцам пайшлі служыць.
Нешта чужое прызналі сваім,
усё сваё аддаюць чужым.
Забылі матуль калыханкі,
пацалункі і ласкі каханак,
гучнасць мелодый вяснянак,
прыгажосць спеваў застольных,
радасць зажынак і дажынак.
Спявайце ім родную мовай
хай будзе ім напамінак.

* * *

Народ тады вясёлы і багаты,
калі шануе песні сваіх матак,
беражэ родныя хаты,
вякамі нажыты набытак.
А цяпер аддаюць гэта чужынцам,
а самі ідуць у найміты.

У гэты час скрухі і стрёсу
смяртэльная пагроза Беларусі.
Адраджэнню разбурэнне ўгатавана.
Ад вас чакаем выратавання.

**Сымон Шаўцоў**

# Сустрэча з консулам у Старыне

*Працяг са стар. 3*

ша Майсеенка, Максім Бенеш, Сяргей Малец, Валодзя Майбарада, Юра Сухавіцкі, Таня Зайцава, Наташа Рашэцкая і іншыя, — расказваюць пра паездкі па Беласточчыне. Тут жа, на ганку перад школай, сабраўся і „персанал" — названыя ўжо медсёстры, выхавацелькі Валянціна Мулярчык і Ларыса Бакур, адміністрацыйны кіраўнік — Таццяна Тоўсцік.

Дзеці — адно перад другім — успамінаюць, дзе былі, куды ездзілі. Былі ў Дубічах-Царкоўных, Гайнаўцы, Бельску, Белавежы, Нарве, Беластоку.

Але найтрывалей засталася ў іх памяці паездка ў Нарву. Там, у „Пронары" (які, як вядома, супрацоўнічае з Менскім трактарным заводам), сустрэлі іх вельмі цёпла. Пачаставалі абедам, пасля быў салодкі стол. Зрабілі для дзяцей экскурсію па фабрыцы газіраванай вады. Была і дыскатэка, і канцэрт мясцовага дзіцячага калектыву, які працуе пры „Пронары" пад кіраўніцтвам віцэбляніна Генадзя Шэмета. Былі розныя конкурсы, у якіх танцавалі і спявалі таксама дзеці з Менска. Атрымлівалі ўзнагароды, а апрача таго, кожнае дзіця атрымала падарунак. Усё гэта арганізаваў гандлёвы дырэктар „Пронару" Ян Чэрнякевіч, а канцэрт і конкурсы вёў Генадзь Шэмет. Разам з ім, дарэчы, дзеці развучылі беларускую жартоўную песню пра авечку, якую зараз жа нам і праспявалі, высунуўшыся наперад, тры галасістыя дзяўчынкі: Іра Гармаза, Каця Буйніцкая і Аляксандра Баброўнік. Мушу прызнаць, што найлепш беларуская мова гучала ў вуснах мініяцюрнай Іры Гармазы.

Дзеці ўжо рыхтаваліся да развітальнага вогнішча. У нядзелю меў прыехаць за імі аўтобус з Менскага трактарнага завода.

Яшчэ прынеслі нам дзіцячыя вершыкі, якія дзеці напісалі пра пабыўку ў Польшчы. Два з іх я ўзяла з сабою. На жаль, былі напісаны па-руску, дык Міра Лукша пераклала іх на нашу мову.

## Адпачынак у Польшчы

Мы прыехалі сюды ў суботу пад вечар,
З усмешкай на вуснах, радасцю
ў сэрцах.
Вельмі добра мы тут адпачывалі:
Спявалі песні, пад музыку танцавалі.
Нам, вядома, цяжка згэтуль
ад'язджаць,
Але прыйшоў час мілы куточак
пакідаць.

**(А. Каранец)**

## У Польшчы

У час адпачынку ў Польшчы было
шмат весялосці,
Многа для нас дабра і крышачку злосці.
Мы прыехалі сюды, каб лячыцца,
Добра правесці час і павесяліцца.
Былі конкурсы і вогнішчы, каб міла час
праводзіць
З апекунамі прыгожымі, мудрымі
і мілымі.
У нашай Старыне нас вельмі добра
кармілі,
Вазілі нас у госці ў гарады і вёскі,
А ў нашай вёсцы — добрыя дзеці,
дзядзькі і цёткі.
Час стралой ляціць, пара нам
ад'язджаць,
Мяняцца адрасамі, рукзакі пакаваць.
Выбару не маем: трэба нам збірацца,
А ўсім вядома, як цяжка расставацца.

**(Оля Гармаза)**



*Дзяўчаткі праспявалі нам песню, якую развучылі ў Нарве з Генадзем Шэметам.*

Развітваючыся, Генеральны консул Міхась Слямнёў выцягнуў з самахода два вялікія пакункі — адзін, поўны цукерак, другі — з піццём. Будзе дзецям на дарогу!

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**

# 14-я нядзеля пасля Пяцідзесятніцы

*(Матф., 22:1-14)*

У 22-м раздзеле Евангелля паводле Матфея змешчана прытча пра клікаdebuted ных на банкет, якія адкінулі запросіны. „Я купіў зямлю і мне трэба паглядзець яе”, — сказаў адзін з іх; „Я купіў валоў і мне трэба паглядзець іх”, — сказаў другі, а яшчэ іншы ажаніўся і дзеля гэтага таксама сказаў, што не можа прыйсці. Тады гаспадар загадаў заміж раней запрошаных паклікаць бедных, калекаў, кульгавых і сляпых, заявіўшы, што „ніхто з тых, што былі запрошаны, не пакаштуе маёй вячэры”.

На прыкладзе гасціннасці, на пункце якой ўсходнія народы вельмі чуллівыя, Хрыстос сімвалічна паказаў суадносіны паміж Богам і яўрэйскім народам, якога месца ў Месіянскім царстве занялі пакліканыя ў другую чаргу паганцы. На голас пракокаў яўрэйскі народ адказваў глухатой і знявяжлівасцю. Бог не раз дапускаў вынішчэнне яўрэйскага народа. Здавалася, вось яшчэ адзін катаклізм і ён наогул перастане існаваць. Аднак нават у крытычныя моманты народ не хацеў апамятацца і не каяўся перад Богам. „Чаму маеце быць бітыя яшчэ больш за сваё ўпорства?” — пытаў прарок Ісаія. Ён журыўся, бачачы людзей, якія акуратна прыносілі ахвяры, займаліся ўсім: жаніцьбамі, гандлем, жывёлай і палямі, толькі не думалі пра ачышчэнне сваёй душы (1,5). Адначасова працягвалі акуратна адзначаць святы і ганарыліся сваёй пабожнасцю. „На што мне безліч вашых ахвяраў, — гаварыў прарок ад імя Божага. — Не прыносьце больш дарэмных падарункаў (...) святочных зборышчаў вашых не пераношу: беззаконне і святкаванне! Навамесячча вашы і святы ненавідзіць душа мая; яны бярэмя для мяне (...) абмыйцеся, ачысцьцеся” (Ісаія, 1:11—16).

Гістарычныя этапы Ізраіля і ягонае пасведчанне могуць быць урокам і перасцярогай таксама для „новага Ізраіля”, новазапаветнай Царквы. Бог дае сучасным хрысціянам магчымасць заглянуць у сваё духоўнае люстра, Евангелле, каб убачыць у ім адбітак сваёй сутнасці. На вялікі жаль, людзі пераважна Евангелле цалуюць, мала чытаюць, а яшчэ менш выконваюць. Традыцыйна яны прытрымліваюцца пастоў і святаў, удзельнічаюць у багаслужбах і ахвяроўваюць на ўтрыманне сваёй Царквы, але ў сэрцы яны далёкія ад Бога. Вонкавая і ўнутраная пышнаць храмаў, бліскучыя рызы, прыгожыя спевы і казанні дарэмныя, калі пад гэтай абалонкай няма евангельскага духа. Яны гэтулькі маюць супольнага з хрысціянскім ідэалам, колькі архірэйская мітра, сімвал цярновага вянка, з сапраўдным цярновым вянком, або гэтулькі супольнага з Богам, колькі надпіс на спражках паясоў нямецкіх жаўнераў: Gott mit uns (Бог з намі).

У гістарычным плане Божыя запросіны сапраўды былі накіраваны ў першую чаргу да яўрэяў, якія пагардзілі імі. Тады Божыя пасланнікі-апосталы былі накіраваны да іншых народаў. У IX і X стагоддзях чарга прыйшла і на беларускія плямёны. Працэс евангелізацыі свету страціў цяпер сваю дынаміку, але ў асноўным працягваецца. З другога боку назіраецца сітуацыя, якая бывае з войскам, што здолее пакарыць нейкую краіну, але не ў стане падпарадкаваць сабе тылы. Разам з паўторнай рэлігійнай непісьменнасцю зноў узнікала патрэба паўторнай евангелізацыі. Як заявіў нядаўна Сабор Расейскай Праваслаўнай Царквы ў Маскве: „... з аднаго боку пачаўся працэс духоўнага адраджэння народу, а з другога — у наяўнасці злачыннасць, п’янства, наркаманія, расклад сям’і, разводы, аборты і самагубствы... Мы не павінны забываць, што поле місіі кожнага з нас — побач, блізка. Формамі місіі могуць быць і прапаведзь, і катэхізацыя, і выдавецкая дзейнасць, і шчырае служэнне тым, хто абяздолены і пакутуе (...) да кожнага чалавека трэба знайсці падыход”. Пад гэтымі словамі падпішацца кожны, бо дарэчы, усе вышэйзгаданыя патрэбы тычацца таксама і Беларусі, якая атрымала ў спадчыну ўсе скрыўленні і хваробы „савецкага” грамадства.

У непрывычных умовах свабоднага спаборніцтва, заміж скардзіцца і абурацца на замежных місіянераў, трэба самім паклапаціцца аб пераадоленні жахлівых вынікаў дзесяцігоддзяў праграмнай атэізацыі, бо згодна Святому Пісанню: „Як жа людзі могуць ведаць, калі ніхто не навучыць іх?”

Евангелле гэтай нядзелі кажа, што „многа пакліканых, але мала выбраных”, аднак каб знайшліся выбраныя, трэба клікаць усіх.

**а. Канстанцін Бандарук**

## LIST WIERNYCH PRAWOSŁAWNYCH BIAŁOSTOCCZYZNY DO JEGO ŚWIĄTOBLIWOŚĆI PAPIEŻA JANA PAWŁA II

**WASZA ŚWIĄTOBLIWOŚĆ!**

Pamiętając historyczne spotkanie z Waszą Świątobliwością w prawosławnej katedrze białostockiej, z wielką powagą i nadzieją a zarazem z bólem serca kierujemy do Waszej Świątobliwości niniejsze słowa. Z powagą, bowiem list ten pisany jest pod wpływem zatrważających okoliczności. Z bólem serca, bo przyczyną naszej trwogi jest poczucie krzywdy i zagrożenia, jakie wytworzyli wokół nas i w nas samych niektórzy hierarchowie Kościoła Rzymskokatolickiego. Nadzieją zaś napawają nas słowa Waszej Świątobliwości zawarte w liście apostolskim "Orientale Lumen" a szczególnie zapewnienie, iż Kościół Rzymskokatolicki pomoże prawosławnym (z krajów byłego bloku komunistycznego) w odzyskaniu nieruchomości.

Nasz niepokój budzą dążenia Kurii Metropolitalnej w Białymstoku do zawładnięcia kompleksem budynków Ławry Supraskiej, stanowiącej od wieków duchowo-kulturowe centrum prawosławnych mieszkańców tego regionu. Ostatnia rozprawa w Naczelnym Sądzie Administracyjnym w dniu 25.05.1995 r. zaowocowała wyrokiem unieważniającym decyzję Szefa Urzędu Rady Ministrów, przywracającą nam prawo własności do klasztoru w Supraślu. Dodajmy: decyzję, którą jak poinformował minister J.M. Rokita, podjęto za wiedzą i aprobatą Waszej Świątobliwości. Decyzję tę zaskarżyła do NSA Kuria Metropolitalna w Białymstoku.

Tendencyjne "dowody" praw do supraskiego monasteru Kościół Katolicki wywodzi z bolesnej przeszłości podziałów w Kościele Prawosławnym. Obecnie zaś na Białostocczyźnie nie ma katolików obrządku bizantyjsko-ukraińskiego a zakon o.o. Bazylianów, który w przeszłości był użytkownikiem klasztoru, teraz wycofał wszystkie roszczenia do własności. Problem Supraśla od lat wzbudza niepokój wśród prawosławnych nie tylko w Polsce ale i na całym świecie. Również katolicy - zwolennicy autentycznego dialogu ekumenicznego - zamieszkali w Kraju i za granicą są zaniepokojeni postępowaniem Kurii w Białymstoku. Jako przykład niech posłuży publikacja A.W. Kulika w "Zeszytach Historycznych" (Instytut Literacki. Paryż. 11/95). Na str. 209 czytamy: *Pisanie o tej sprawie nie należy do przyjemności: muszę mówić o kłamstwach (patrz: artykuł ks. Tadeusza Krahela w "Gościu Niedzielnym" nr 32 z 15.08.93, wspomnienia ks. Wacława Dorabiały w monograficznym, Supraślowi poświęconym numerze pisma "Białostocczyzna" nr 2/34/1994) i o kłamstwach tzw. uczonych (prof. Stanisław Stanicki - artykuł o unickich początkach ławry w "Słowie", dr Józef Maroszek - Kalendarium zamieszczone w "Białostocczyźnie" 2/34/94)... Kościół ma zbyt wielu historyków, by nie wiedzieć, iż prawosławne korzenie Supraśla są niepodważalne...* Czynione są próby udowodnienia prawa własności do monasteru z faktu użytkowania go przez katolików w okresie międzywojennym. Rzeczywiście, Kościół Rzymskokatolicki zawładnął klasztornymi budynkami w dn. 4.10.1927 r. - dokonał tego jednak naruszając i tak restrykcyjne wobec prawosławnych ówczesne prawo.

Wasza Świątobliwość! Prawosławni w Polsce wielokrotnie dawali wyraz woli ekumenicznego współżycia. W samym Białymstoku, po Pierwszej Wojnie Światowej, dwie cerkwie wybudowane przez prawosławnych zostały zamienione na kościoły i my nie ubiegamy się o ich zwrot - niech służą naszym braciom. Kościół Prawosławny zrzekł się roszczeń do części budynków w Różanymstoku i przekazał byłą cerkiew dla Kościoła Rzymskokatolickiego. Nie domagamy się również rekompensaty za rozebraną w roku 1937 białostocką cerkiew Zmartwychwstania Pańskiego, z której cegły użyto do budowy ogrodzenia kościoła św. Rocha. Niestety nie były to jedyne bolesne dla prawosławnych Białostocczyzny doświadczenia. Prosimy więc Waszą Świątobliwość nie dziwić się naszym ekumenicznym obiekcjom.

Wierzymy, że słowa Waszej Świątobliwości kierowane do prawosławnych wyrażają szczere dążenia do pojednania wszystkich chrześcijan a o co Kościół Prawosławny modli się każdego dnia. Czy jednak możliwe jest budowanie jedności, prawdziwie braterskich stosunków, gdy nasze wysiłki ratowania duchowego oraz kulturowego dziedzictwa - chrześcijańskiego i narodowego są torpedowane przez braci katolików?

Piszemy ten list w nawiązaniu do stwierdzenia Waszej Świątobliwości, zawartego w "Orientale Lumen": "Na Wschodzie każdego dnia wstaje na nowo słońce nadziei, światło, które przywraca istnienie rodzajowi ludzkiemu. Ze Wschodu, zgodnie z piękną metaforą, powróci nasz Zbawiciel (por. Mt. 24,27)". Z tych słów bierzemy nadzieję, że Wasza Świątobliwość znajdzie sposób na rozwiązanie nabrzmiałego wokół Supraśla problemu i na tych terenach rzeczywiście zapanuje spokój sprzyjający dalszemu dialogowi pomiędzy naszymi Kościołami.

W imieniu wiernych prawosławnych Białostocczyzny

**Przewodniczący Zarządu Głównego Bractwa Prawosławnego w Polsce prof. zwycz. dr hab. med. Michał Małofiejew**
**Antoni Mironowicz**
**Eugeniusz Czykwin**
**Jan Zieniuk**
**Mikołaj Wawreniuk**
**Jarosław Werdoni**

# СУПРАСЛЬСКІ КОДЭКС

У ліку вельмі каштоўных кніг бібліятэкі Супрасльскага манастыра знаходзілася *Минея Четная* пачатку XI ст., якую ў навуковай літаратуры называюць *Супрасльскім кодэксам*. Самы старажытны рукапіс манастырскай бібліятэкі, а заадно адзін з самых старажытных вядомых прыкладаў кірылічнага пісьма, змяшчае жыціі мучанікаў і святых разам са словамі-павучаннямі на месяц сакавік.

У Супрасль рукапіс XI стагоддзя трапіў праз пасрэдніцтва Кіева-Пячэрскай лаўры, з якой манастыр падтрымоўваў цесныя сувязі. У 1823 г. *Супрасльскі кодэкс* быў адкрыты прафесарам Віленскага універсітэта Міхаілам Баброўскім (1785—1858). Рукапіс выклікаў вялікую цікаўнасць сярод славістаў, мовазнаўцаў і гісторыкаў. У 1851 г. выдатны славяназнавец, прафесар Венскага універсітэта Францішак Міклашыч упершыню выдае друкам *Минею Четную* (F. Miklosich, Monumenta linguae palaeoslavenicae e codice Suprasliensi, Vindobonae 1851). Поўнасцю *Кодэкс* быў выдадзены ў 1904 г. у Пецярбургу. Рэдактарам выдання стаў Сяргей Севяр’янаў (С. Северьянов, Супрасльская рукопись, Санкт-Петербург 1904), які не толькі падрыхтаваў рукапіс да друку, але ўзбагаціў выданне крытычнымі каментарыямі. Выданне Севяр’янава дапамагло Балгарскай акадэміі навук выдаць у 1982 г. факсімільным спосабам тэкст *Кодэкса* сумесна з яго перакладам на грэчаскую і балгарскую мовы. Двухтомнік выйшаў пад загалоўкам *Супрасълски или Ретков сборник*.

Большасць даследчыкаў указвае на балгарскае паходжанне *Супрасльскага кодэкса*. Архімандрыт Мадэст, супрасльскі храніст XIX стагоддзя, меркаваў, што аўтар рукапісу выводзіцца з асяроддзя славянскіх манахаў, якія прабывалі на Святой Гары Афон. На жаль, гэтае меркаванне не было падмацавана пераконваючымі доказамі. Аб тым, што *Супрасльскі кодэкс* быў створаны на тэрыторыі Балгарыі можа сведчыць шэраг элементаў: мова рукапісу, прыменeная тэрміналогія, тэхніка пісання. Найбольшыя рознагалоссі выклікае мова рукапісу. Побач балгарскіх дыялектаў IX і X стагоддзяў, шэраг выразаў захоўвае праславянскую форму. Класіфікацыю першапачатковай мовы *Супрасльскага кодэкса* ўскладняюць дзве прычыны:

1. супярэчнасць і непаслядоўнасць у нормах запісу. Наколькі былі яны аднародныя, то з часам, так як у кожнай норме, наглядаюцца розніцы ў мове твора ў параўнанні з жывой народнай гаворкай;
2. значная семантычная дыферэнцыяцыя прыменeнай у рукапісе тэрміналогіі і розны спосаб яе выкарыстання. Гэты факт даказвае, што аўтар тэксту карыстаўся пісанымі творамі, але дыялектна дыферэнцыраванымі.

У *Кодэксе* сустракаюцца пераклады тэкстаў з мясцовых гаворак на літаратурную старажытнабалгарскую мову. Маргуліес, аналізуючы спосаб ужывання галоснай е ў рукапісе, адхіляе ўплыў заходнеславянскай мовы, даказваючы, што *Кодэкс* быў створаны выключна на аснове гаворак, якія выступаюць на балгарскай зямлі. Паводле яго, палеаграфія тэксту паходзіць з канца X ст. і мае балгарскі характар. У датаванні і ва ўстанаўленні нормы запісу вялікае значэнне мела адкрыццё надмагільнага надпісу непадалёк базілікі ў Пліску, г.зв. *Лазаравага надпісу*, які быў зроблены на грэчаскай і старажытнабалгарскай мовах. *Надпіс* датуецца на I палову X ст. Ужытыя там звароты выступаюць у *Супрасльскім кодэксе*. Гэты факт звяртае ўвагу на матывы стварэння *Кодэксу* на старажытнабалгарскай, *кірылічнай* мове. Рукапіс паўстаў у перыядзе, калі Балгарыя знаходзілася ў залежнасці ад Візантыі. *Кодэкс* на старажытнабалгарскай мове быў адказам асяроддзя балгарскага духавенства на спробы навязаць літаратуры грэчаскую мову. Славянская мова для балгарскай свецкай эліты была праявай супрацьдзеяння культурнаму і палітычнаму грэчаскаму дамінаванню на балгарскай зямлі.

У гэтым перыядзе сустракаюцца многія пераклады кніг з грэчаскай мовы на старажытнабалгарскую. Часта глагалічныя рукапісы перапісваліся ў кірылічнай транслітарацыі. Беручы пад увагу мову і непаслядоўнасці ў карыстанні нормамі правапісу, можна дайсці да вываду, што *Супрасльскі кодэкс* — гэта адна са спроб перакладу тэкстаў з грэчаскай і гутарковай моў на літаратурную старажытнабалгарскую мову.

Аўтарам гэтага перакладу быў Рэтка, аб чым сведчыць паметка на 207 старонцы рукапісу: *Господи помяни Ретка Амин*. Невядома, хто такі той Рэтка, але, мабыць, як большасць аўтараў такога тыпу літаратуры, выводзіўся з манастырскага асяроддзя. Імя *Рэтка* часта выступала на тэрыторыі Балгарыі, Чэхіі, Польшчы. Вядомы таксама многія мясцовыя назвы такога самага або падобнага значэння. Почырк паказвае, што ўвесь *Кодэкс* быў спісаны адным чалавекам. Тэхніка і эстэтыка пісьма схіляюць да меркавання, што рукапіс паўставаў паволі. Аўтар намагаўся, каб пісьмо было чытэльнае і выразнае.

У бібліятэку Супрасльскага манастыра *Минея Четная* XI стагоддзя трапіла перад 1557 г. У гэтым жа годзе ўпершыню ўпамінаецца яна пад назвай *рукопись старая*. Прывезлі яе ў Супрасль кіеўскія або балгарскія манахі, якія часта наведвалі другі ў XVI ст. па Кіева-Пячэрскай лаўры манаскі цэнтр. Рукапісам як арыгіналам карысталіся супрасльскія перапісчыкі і перакладчыкі падчас тыражавання рэлігійных тэкстаў. Гісторыя *Супрасльскага кодэкса* ўказвае на цесныя сувязі беларуска-літоўскіх манастырскіх цэнтраў з Кіевам і Балканамі. Для мовазнаўцаў і гісторыкаў супрасльскі рукапіс XI ст. з’яўляецца асноўнай крыніцай у даследаваннях літаратурнай старажытнаславянскай мовы, норм яе ўжывання, першых перакладаў з грэчаскай мовы на славянскую, прыкладнога мастацтва царкоўных літургічных кніг.

**Антон Міранoвіч**

# Успаміны Сяргея Паскробкі

Нарадзіўся я ў 1913 годзе ў вёсцы Рыбакі. Бацька мой працаваў у лесе і зямлю абрабляў. Першы раз пайшоў я з арэлямі, калі было мне якіхсьці 18 гадоў. Зімою ў лесе дрэвы загатаўлялі. Сплыў пачынаўся вясною, як лёд пусціў і рэчка ўваходзіла ў берагі. Збівалі пас 150 метраў даўжыні. Глені звязвалі дротам. Як глені былі доўгія, то нейкіх 10 гленяў на пас выходзіла, а як кароткія то і больш. Пас бралі трох. Найчасцей хадзіў я з Юстынам Несцеруком з Ляўкова, з Васілём Гайдуком і з Эдкам. З лесу вазілі спярша фурамі, потым калейкаю над рэчку Нарву; там прыстань была. Скідалі клёцы на бераг, качалі ў ваду і збівалі ў гэтак званым варстаце. Была ад рэчкі ціхая аднога, там збівалі і адтуль выганялі на рэчку. Не толькі з Рыбакоў гналі; хадзілі таксама і ў Белавежу, і ў Нараўку, і ў Броўск, і нават у Рудню. Возьмеш торбачку з правіянтам на плечы і пайшоў у Рудню пехатою. У нас, у Рыбаках, начавалі арэлі, што гналі дрэва з Рудні або Броўска; прамоклыя, прыходзілі прасушыцца. Я, як выходзіў на рэчку, то нідзе не начаваў. Білі калкі ў плыткім месцы, затрымоўваліся на вадзе нанач і там спалі. На гленях былі будкі: збівалі рыштаванне з жэрдак і абівалі саломаю. На гленях рассцілалі дзярно, пасыпалі пяском і там вогнішча палілі. Дзве вопраткі браў, каб мяняць: адну насіў на сабе, а другая сушылася, бо часта трэба было ў ваду лезці; цэлымі днямі мокры хадзіў. Працавалі мы з лескамі, доўгімі тычкамі, у руках. Бралі з сабою есці, картофлю і сала, каб на два тыдні хапіла. Забіралі таксама посуд, у якім есці варылі. Найцяжэй было паблізу кургану каля Нарвы, Янова і Канюкоў. Людзі з навакольных вёсак памагалі прапіхаць: шарваркам гэта лічылася. У Канюках памагалі прапіхаць дзяўчаты; асабліва дзелавітая была адна, Малашка называлася. Раз у Плёсках, пад мостам, мароз хапіў, а адна і другая вопраткі мокрымі былі. То я адну з іх выкрунуў, апрануў, лёг пасярэдзіне, накрылі мяне і так ноч пратрываў; не захварэў. Людзі хварэлі: вось Васіль аднойчы аж два тыдні ў шпіталі праляжаў. Начавалі, бывала, з вадзянымі шчурамі, якія з вады на травы лезлі. Другіх няпрошаных госцей не бывала; пра нейкія напады, як цяпер, не чуваць было. Каля шпіталя ў Харошчы выходзілі хворыя і пыталі, ці акуркаў не маем. У Гуры зноў жулікі былі. Рэчка там была пакруцістая, а яны з тычкамі з гакам на канцы пільнавалі, каб нешта ад нас сцягнуць. Раз будзімся: трох елак няма, але знайшлі мы тыя елкі адцягнутыя ў адногу недзе каля трохсот метраў ад нас. Сцягнуць было лёгка, бо бралі мы наклад: на збітыя глені клалі яшчэ адзін або і два радкі дрэваў. Ну, як удалося скамбінаваць запас то і было што згандляваць. Квіты нам выпісвалі ў таргоўлі ў Нарве: пісалі, колькі клёцаў у тратве і колькі накладу. У Тыкаціне дрэвы гэтыя прымаў ад нас купец Малярэвіч; чатырох сыноў ён меў. Як плылі каля Залатоў, то стараліся, каб там, дзе Супрасль упадае ў Нарву, першымі быць. Супрасль не была так пакруцістая, як Нарва і пас па ёй гнала толькі двох арэляў; хапала іх там, каб з гэтым пасам справіцца. Калі яны выходзілі на Нарву, удваіх не давалі рады гнаць свой пас так хутка, як гэта мы рабілі са сваім пасам утраіх. Калі яны плылі перад намі, то і мы, не могучы іх апярэдзіць, гнаць мусілі свой пас таксама паволі, як і яны. Ад Тыкаціна Нарва была ўжо шырокая, але мы далей не гналі; гналі другія. Раз, перад Тыкацінам, на нашу Красную суботу, узняўся вецер і мы дайшлі да Тыкаціна ўжо на наш Вялікдзень, у нядзелю. Прыйшоў стораж, прыняў ад нас пасы. Мы, прагаладалыя, падаліся ў рэстаран. Там рыжавалосая дзяўчына кажа нам:

— Не ідзіце ў рэстаран, бо там нарадоўцы маюць сход і вы нічога не купіце.

Я ўсё-ткі заходжу і пытаюся.

— Тут не магу, — кажа прадаўшчыца, — там старшы стаіць.

Іду да старшага і гавару, што два дні ўжо не еў і хацеў бы крыху пераесці. Ён мне кажа:

— Сядай з намі!

Я кажу, што ў мяне супольнікі.

— Дай, цо он хцэ! — загадаў прадаўшчыцы.

Выходжу я з пакупкамі, а стораж здзіўляецца:

— Як се тобе так удало!?

З Тыкаціна ў Беласток вазілі нас фурамі балаголы — жыды. Вазілі ноччу: каб мухі і бомкі не кусалі. Выязджалі з Тыкаціна на змярканні і ўначы ўжо былі ў Беластоку. Падвозчыкі бралі дванаццаць чалавек; па два злотаў ад кожнага. З Беластока ў Заблудаў ехалі самаходам, а з Заблудава дадому вярталіся пяшком.

Аднаго года хацелі ў Нараўку на Яна паспець, то гналі начамі; не спалі. У Тыкаціне я да цырульніка пабег, а клункі кінуў. Тыя клункі жыды ўжо на свой воз грузяць. Але ў Тыкаціне ўжо і таксоўкі былі: таксама два злоты да Беластока бралі. Я, падстрыжаны, прыходжу і загадваю жыдам:

— Выгружай! Таксоўка таксама за два завязе.

У Заблудаве ўзялі бутэльку водкі, але ўчатырох не далі рады выпіць: так недаспаныя змучаны былі. Перапачавалі мы ў нейкім абарозе, але ўсё-ткі на Яна ў Нараўку паспелі.

Бываў з намі адзін такі жартаўнік, Ляўко называўся. Раз у Тыкаціне сядзімо каля ратушы. Жыды групамі ходзяць, а паліцыя іх разганяе. Адзін жыд бег, а той Ляўко яму нагу падставіў. Той жыд упаў, а Ляўко яго за нагу і крычыць да паліцыянта: „Хадзі сюды!" Прыйшоў паліцыянт і гумаю таго жыда, гумаю. Або зноў у Беластоку, каля аўтобуса, адна жыдоўка стаяла з кошыкам і крычала: „Купляйце! Купляйце!" То ён выхапіў той кошык і ў аўтобус. Але як аўтобус ад'язджаў, то аддаў. Або зноў, таксама ў Беластоку, паненкі ў брамах стаялі, на кліентаў чакалі. А ён да іх: „Ідзі спаць! Ён сёння не прыйдзе".

Хадзіў я ў арэлях толькі пры санацыі: усяго пятнаццаць разоў было. Бывала і так, што як пойдзем з дзервам, то бабы сярпамі ўсё поле павыжынаюць. Рака была поўная людзей: было тут і Ляўкова, і Пасекі, і Ціванюкі, і Лука, і Нараўка.

Як прыйшоў немец, то ўжо толькі ў лесе працаваў і яшчэ на сплыве тратвы збіваў.

У нас, у Рыбаках, жыло трох немцаў. Аднойчы прыехала нямецкая аблава, акружылі вёску, усіх пад лес пагналі, хадзілі па хатах. А тых трох было ў лесе, тыя з аблавы зброю іхнюю найшлі ў вёсцы і забралі. Вяртаюцца тыя з лесу, а мы пад лесам стаімо.

— Бандыты! — крыкнулі немцы з аблавы, але зараз справа выяснілася.

Падходзіць адзін з аблавы да нас, каб ім водкі даць.

— Не давайце ім, мы самі вып'ем, — кажуць „нашыя" немцы.

Да вайны пасяліўся ў нашай вёсцы, як пазней аказалася, нямецкі шпіён. Шаўцом быў. Пойдзем, бывала, пад рэчку, а ён драты на кустах напінае. Мы не ведалі, што гэта такое, толькі потым усведамілі. Як вайна пачалася, паехаў ён коньмі ў лес. Вяртаецца, а мы кажам, што немцы ў Нарве. То ён адразу ў Нарву і пабег.

Аднойчы, у нядзелю, бярэ мяне і яшчэ двох і ў Нарву вядзе. Заходзім да мастоў — немцы на варце. Ён гергануў нешта і мы прайшлі. Заходзім у Нарву, а там жыдоўскія крамы разбіваюць. Мы ходу адтуль, але на мосце не пускаюць. Мы назад да яго, ён нас адвёў праз мост і мы пайшлі. Жыдоў тады з Нарвы забіралі. Жудка нам было, мы з жыдамі добра зналіся. Дзве такія жыдоўскія бахуркі вельмі файныя былі, на забавах заўсёды з намі танцавалі; каля касцёла ў краме прадавалі яны.

Калі саветы наступалі, перастрэлка ў нас была; вёска гарэла. Саветы ад Лешукоў ішлі, а немцы адступалі за Адрынкі. Сорак саветаў ішло. Адзін малады разведчык перапраўіўся ў Адрынкі, пытае аднае бабы ці немцаў няма. Яна адказала, што няма. То саветы пайшлі. А немцы за Адрынкамі ў засадзе заселі і па тых саветах; усіх палажылі. Потым шукалі тае бабы, але не знайшлі.

Пасля вайны ў лесе працаваў. Зямлю таксама абрабляў, але больш у лесе рабіў. Сорак гадоў у лесе вырабіў. Нашы малодшыя супольнікі ўжо пілы матаровыя мелі, але я не купляў; зацяжкая ўжо была для мяне. А цяпер на пенсіі, крыху на гаспадарцы памагаю. Равы паабкошваў, жыта скасіў. Сена паварочаў, капіцы буду класці: у мінуту капіцу, такую як „малюх", злажу. Даю адну карову, а часам то і тры выдаю. Малако калейкаю ў Ваські возім: колькі банак, толькі разоў везці трэба.

Устаю ў чатыры гадзіны раніцы, не куру. Калісь выпіваў нямнога, а цяпер толькі два кілішачкі і больш не.

Царкоўку у сваёй вёсцы паставілі. Рабілі ўсе: цэглы, цэмент падавалі. Бабы памагалі, бо мужчын мала. На Святы Крыж, 27-га верасня, бацюшкі з'ехаліся, мошчы закладалі. Пад Міхайла пакрылі, а ў Вялікдзень ужо служба адбылася — пасля шасці месяцаў ад закладу фундаментаў. Чакаем цяпер на высвянчэнне нашай царкоўкі. Няма яшчэ дзвярэй да іканастасу. Дрэва на іконы ў Бельск завезлі і чакаем аж бацюшка Лявонцій напіша іх.

Запісаў

**Аляксандр Вярбіцкі**

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

**Частка XXVI**

Прыводжу далейшыя фрагменты выказванняў майго бацькі аб яўрэях:

„Бывало, напрымер, такое. Заедзеш на рынок з парасятамі або із збожам. Прастаіш цэлы дзень і не прадасі. Ну і трэбо валачыся пятнаццаць вёрст па бездарожжы назад дахаты. І што ты думаеш, калі ўжэ ўсе з рынку раз'езджаюцца, то раптам нібы то выпадково паявіцца жыд і пачынае муціці: „Ну што гэто, Андрэю, так стаіш? Ні прадаў ты ні жыта, ні парасят і мусіш валачы ўсе назад а дарога папсавалася так што і калеса можэш паламаці. Мне цябе, Андрэю, шкода і таму я куплю і тваё парасята і твае збожэ". І знаеш што? Купляе, але дае табе адну трэцюю цэны. Ну і што рабіці? Аблаеш жыда астатнімі словамі але ў канцы канцоў прадасі ему свой тавар і паедзеш парожнім возам дахаты. Ну, то палучаецца так, што жыд хоць цябе і ашукаў, але зрабіў табе і добрэ, бо купіў тое, чаго ніхто купіці ні хацеў. І яшчэ аднэ табе скажу. Жыды вельмі любілі таргавацца, стукаці ў руку, пляваці, адбігаці ад воза і зноў варочацца. Можна было з ім сварыцца, абругаці, аблаяці. За гэто жыд ні крыўдаваў. А вельмі часто бывало так. Пойдуць да жыда-шаўца, каб заказаці чобаты. Таргуешся з ім, таргуешся і ў канцы канцоў то ён табе збавіт пару злотых і калі ўжэ дойдзе да згоды, то возьмеш яму і скажэш: „Абрам, я табе дадаю два злотых, толькі зрабі так, каб чобаты былі і харошы, і моцны, і выгадны". То знаеш, Абрам зробіт такіе чобаты, што ходзіш у іх як у шолку і будзеш хадзіць і тры, і штэры або і пяць лет. Так што бачыш, жыды таксамо совесць мелі і свой гонар мелі.

Ну, трэбо сказаці, што жыды то народ намного разумнейшы, чым нашы беларусы. Па-першае, то п'яніца ў жыдоў то была вялікая рэдкасць. Жыд напавал, так як наш брат, ні напіваўсе. Па-другое, то ўсе яны стараліся вучыці сваіх дзяцей. Ні толькі тыя багаты, але і бедны таксамо вучылі. Ну, а вяліка іх перавага над намі то была і ў тым, што яны зналі наш язык, але мы то іх языка ні зналі. Ну аб сваіх дзелах паміж сабою то яны ніколі па-нашаму пры нас ні гаварылі. Гаргіталі па-жыдоўску. Так што яны аб нас зналі ўсё, а мы аб іх ні зналі нічого. То вядомо, што ім было лёгко нас ашуківаці. Ну і яшчэ адна вяліка розніца паміж беларусамі і жыдамі. Беларус адзін аднаго ўтопіт у ложцы вады, а жыд жыдаві ніколі крыўды ні зробіт. У іх усё важнэ пастанаўляецца ў кагалаві разом з рабінам. І от гэты кагал ні пазволіт, каб жыд жыда моцно крыўдзіў або ашукоўваў.

А знаеш што яшчэ хачу табе сказаці. Ні знаю колькі ў гэтым праўды, але я то ў гэто веру. Значыцца, калі немцы пачалі растрэліваці жыдоў, то ўсё ж такі некаторы з іх уцяклі і схаваліся ў беларусаў або ў палякаў. То, значыцца, тые іх трымалі так доўго, як доўго ў жыдоў было золато. А калі ўжэ ўсё золато ад жыдоў выцягнулі, то выдавалі іх немцам. Ну, а некаторы то баяліся выдаваці немцам, бо вядомо, што немцы ні дурные і хутко выцягнулі б і ад жыдоў, і ад тых, хто іх хаваў, чым жыды плаціли беларусам чы палякам. Ну і тады то куля ў лоб і адным, і другім. То, значыцца, такіе „спасіцелі", калі ўжэ ўсё багацтво ад жыдоў выцягнулі, то тады самі гэтых жыдоў забівалі і закопывалі ў яму, як якую жывіну. Так, што сам бачыш, якія то бываюць людзі і ў нашым народзі. Ты знаеш, што мяне вельмі здзіўляе? После вайны то кругом у нас паставілі много памятнікоў тым, хто згінуў ад немцаў. А чом гэто нідзе тут ні ставят у нас памятнікоў жыдам, каторых немец перабіў і ў Нізбодцы, і ў Заблудові, і ў Нарві, і ў Нараўцы, і ў Гайнаўцы, і ў Кляшчэлях. Тож іх тут згінуло тысячы, тысячы. От гэтого то я ніяк ні панімаю, што ім ніхто тут ні ставіт памятнікоў. Мне здаецца, што жыдам тут памятнікі варто было б паставіці. Яны ж тут ад вякоў жылі і наша земля гэто таксамо іх родзіна".

**Алесь Барскі**




## Бочка з порахам

Яўген Міранові у сваім цікавым артыкуле „Бочка з порахам" („Ніва" н-р 35) коратка апісаў фон югаслаўскага канфлікту, які разыгрываецца на нашых вачах. Ён, як гісторык, добра разбіраецца ў такіх складаных справах і тое, што напісаў, гэта праўда. На жаль, нецікавая яна для нас, а трагічная, бо бачым, як гэта нашых братоў па веры праваслаўнай, сербаў, хочуць сапхнуць у прорву, каб яны загінулі. Толькі цешыць сэрца тое, што магутная Расія не абыякава на трагедыю сваіх і нашых братоў, сербаў. І напэўна, каб не зброя ад рускіх, дык сербаў мо ўжо і задушылі б розныя „вызваліцелі". Цэлая трагедыя заключаецца ў слабасці Праваслаўнае царквы, галоўным чынам у Расіі. Каб яна была такая, як пры цары, дык сербаў ворагі мінавалі б здалёк. Бо хто вызваліў цэлы балканскі паўвостраў як не рускія? Яны сваёй крывёю прамачылі цэлую гэтую гаротную зямлю. Але тады Праваслаўная царква мела рашучы голас і сваіх братоў па веры не пакідала на здзекі лёсу. І думаю, што рускія аб'ядноюцца каб стаць у абарону сваіх найлепшых саюзнікаў і братоў.

**Мікалай Панфілюк**

ПАРНАС. Чытальніцкая літстудыя на негарантаваных паях

## Іголка

Прыязджалі да яе ў сваты
Бедныя і багатыя.
Стол закускі быў поўны
А яны ўцякалі ўсё роўна.
Дык у чым тут прычына?
Бо на від была дзяўчына
Прыгожая, румяная,
Сціплая, паслухмяная,
Жвавая і не бязрукая.
Была толькі блізарукая.
Пайшла ў канцы на хітрасць —
Надакучыла ёй прыкрасць.
Прысхаў да яе ў сваты
Хлопец небагаты,
За сталом елі, пілі
І гутарку прыемную вялі.
Раптам кажа дзяўчына: Іголка!
На падлозе каля столка,
Бачу, як ярка блішчыць,
Нават мухі магу палічыць.
О! Мая Дуня, які ў цябе зрок!
Для мяне гэта вялікі ўрок.
Падняла іголку разважна,
Зрабіла подзвіг адважны.
Жаніх усміхнуўся нейк дзіўна,
Развітаўся з бацькамі мірна,
Дзяўчына ўзяла яго пад ручку.
Хлопец рашыў даць ёй навучку:
Ціха зняў з сябе штаны
Пад плотам ля бараны,.
Нагнуўся і задам крануў яе шчакі —
Далікатны быў такі.
Дзяўчына зад цалавала
І хлопца шчыра праслаўляла.
І дома сваёй маме кажа:
Паміж намі — гэта не абраза —
У хлопца з шырокага рота смярдзела,
Толькі сказаць яму не пасмела.
І нос нейкі дзіўны, валасаты,
Без храстка, а далей касматы.
Відаць, перад ад'ездам ён не мыўся,
Бо смярдзеў, як да мяне прытуліўся.
Маці ўсё зразумела
І ад гора яна абамлела.

**Мікалай Панфілюк**

## Сватанне

Ой, калючы ядловец, ягадкі салодкі.
Ой, харошы малодзец ды няма малодкі.
Адгукніся ты на лес, ці хто не пакліча,
У свае порткі ты не лезь, можа хто пазыча.
Ой, то хлопец у карчме, першы ён на лаве,
Першы зваду з тым пачне, хто яму паставіць.
А ў касцёле на год раз і то сярод ночы:
Не прывыкшы, як у вас, лезці Богу ў вочы.
Будзем сватаць што такі, што няма у свеце,
Да работы без рукі і рад спаць у леце.
Што ні возьме, зробіць так, што свет задзівіцца,
Кіем косіць, арэ так, што ў латах праспіцца.
А багаты, бо якраз пазычыў карончык,
Як пазычыць яшчэ сто, то будзе чырвончык.
А разумны так як той, што ляжыць у ломе,
Смокча лапу да святой на печы у доме.
Нуце, дзеўкі, да яго, як мухі да мёду,
Будзе муж хоць для каго з добрага заводу!
Ласы есці, смаглы піць, не будзе адказу,
А па шлюбе жонку біць дык пачне адразу.

*Гэты верш вывучыў я з падручніка беларускай літаратуры ў 1940 годзе і запамятаў да сёння.*

**Аляксандр Барташэвіч**

## Знайшлі работу

Здарылася гэта ў адной падбеластоцкай вёсцы. Да адных людзей, якія былі ігевістамі, прыйшлі мужчыны-аднавяскоўцы і сказалі, што яны прыходзяць працаваць. Гаспадар кажа, што ў яго нічога да работы няма.

— Мы самі работу ў вас знойдзем, — сказалі яны.

Прынеслі драбіну і палезлі на хату здымаць чарапіцу. Гаспадар паглядзеў на іх і пайшоў дадому, ды сказаў жонцы, каб ім абед шыкавала. Выйшаў з хаты, а яны ўжо чарапіцу знялі і пачалі вырываць латы. Кажа ён да іх:

— Злазьце, хлопцы, хадзіце на абед, бо вы ўжо змучыліся.

Яны пасходзілі з даху і ідуць у хату, а там абед ужо гатовы і гаспадар запрашае абедаць. Паставіў на стол бутэльку гарэлкі. Яны селі, пераглянуліся, паналівалі ў чаркі, выпілі і пайшлі з хаты. На панадворку пагаварылі з сабою, што яны дрэнна зрабілі. І палезлі зноў на дах, папрыбівалі латы, палажылі чарапіцу і разышліся па сваіх дамах.

Вось якія ў нас людзі: замест каб памагчы, то яны яшчэ добраахвотна пашкодзяць.

**Аляксандр Барташэвіч**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Сніцца мне, што дачка мая выходзіць замуж. Мы з яе малодшым сынам пайшлі купіць кветкі на вул. Ліповую ў квяцярню. Ідзем і бачым, што каля квяцярні стаяць людзі з кветкамі (здаецца, чырвонымі гладыёлусамі). Чарга ў краму вялікая. Я кажу малому, што мы не паспеем купіць кветкі перад шлюбам. Ведаю, што мае ён адбыцца а 11-ай гадзіне.

І мы ўжо на вуліцы Кюры-Складоўскай, каля судоў. І бачым, што насустрач нам, побач з судом, ідуць на шлюб людзі з кветкамі. Не ведаю, ці гэта былі тыя ж людзі, што былі ля крамы, але кветкі былі падобныя. Кепскі сон, ці добры?

**Марыся**

Марыся, баюся, што можа цябе чакаць нейкая сварка, непрыемнасць. Пра гэта сведчыць той шлюб, які меў адбыцца. Тыя людзі, якіх шмат было ў квяцярні, а пасля на вуліцы Кюры-Складоўскай, гавораць пра страту самастойнасці. Можа, нехта нешта табе загадае зрабіць, што табе будзе няміла, хаця тыя людзі былі з кветкамі.

**АСТРОН**

## Карысныя парады Янкі Целушэцкага

### Як забяспечыць хатнія кветкі

Калі выязджаем на некалькі дзён трэба забяспечыць кветкі, каб яны не засохлі.

I спосаб. Вазоны з кветкамі ставім у вузкую драўляную або кардонную скрыначку. Вакол вазонаў убіваем старанна мох. Перад выездам мох і зямлю ў вазонах моцна кропім. Так забяспечаныя кветкі можна спакойна пакінуць на некалькі дзён без падлівання.

II спосаб. Кветкі ў вазонах ставім на падлозе адна каля адной. Побач ставім вядро з вадой. Рэжам доўгія і вузкія паскі з фланелі, якія ўкладваем у вядро прымацоўваючы іх да дна каменем, і спалучаем з вазонамі. Вада будзе даходзіць да вазонаў так доўга, пакуль будзе ў вядры.

### Як перасаджваць хатнія кветкі

Хатнія кветкі заўсёды мусім перасаджваць праз нейкі час у большыя вазоны чым тыя, у якіх яны раслі. Для аблягчэння працы падрыхтоўваем драўляную плоскую палачку падобную да ножыка. Гэтай вострай палачкай асцярожна аддзяляем зямлю пры ўнутранай сценцы вазона і такім спосабам адсоўваем ад сценкі ўсе карэньчыкі, якія да яе прычапіліся. Потым адварочваем асцярожна вазон уверх дном, трымаючы адначасова кветку каб не ўпала, здымаем вазон. Калі не хоча зняцца, удараем лёгка ў дно. Зямлю з карэннямі вынятую з вазона ачышчаем далікатна нашай палачкай. Такім спосабам пазбаўляемся астаткаў цвілых і гнілых карэньчыкаў. Новы вазон ставім на некалькі хвілін у ваду, каб сценкі нацягнулі крыху вільгаці. На дно кладзем кусочак шкарлупіны або паперы, якая закрые дзірачку і забяспечыць ад высыпання зямлі. Потым сыплем у вазон крыху добрай кампоставай зямлі і ўкладаем кветку. Зверху прысыпаем зямлёю і лёгка ўбіваем. Пасля перасадкі падліваем кветку і ставім у паўцень, пакуль яна не прымецца.

### Асноўныя і паржышчавыя культуры

Многія земляробы ведаюць, што ў адным годзе можна атрымаць два разы ўраджаі з таго самага поля. Штораз часцей сеецца ў нас па пожнях паржышчавыя культуры, так званыя „паплёны".

Але два ўраджаі можна атрымаць і іншым чынам, магчыма нават менш клапатлівым і выгаднейшым. Дасягаецца гэта шляхам падсеву ў жыта кармавой морквы. Сеяць трэба ранняй вясной, калі яшчэ зямля мае многа вільгаці.

Кармавую моркву сеем у жыце сеўнікам пры ўстаноўцы радкоў за 25 да 30 см. Найлепш сеяць упоперак радкоў жыта, высяваючы 5—6 кілаграмаў насення на 1 гектар.

Пасля ўборкі жыта моркве даем штучныя ўгнаенні (перш за ўсё азотныя) і чым хутчэй узрыхляем зямлю паміж радкамі. Кармавая морква не баіцца прымаразкаў і таму да яе ўборкі можна прыступіць ужо пасля ўборкі бульбы і буракоў.

## Ахоўваемая прырода на базары

Афіцыйна за ўпаляване ахоўваемай жывёлы пагражае ў Польшчы штраф, а нават турма. Тым часам на базарах паяўляюцца трафеі, якія паказваюць на размер браканьерства. Напрыклад, нядаўна ў Ольштыне адабралі гандляру спрэпараваную галаву зубра — караля польскай пушчы. На базарах паблізу граніцы і нацыянальных паркаў можна без цяжкасцей купіць банку сала з сурка, якое быццам бы памагае на лёгкія. Лёгка купіць можна таксама чучала арла або цецеруха ці пёры павы або рогі карпацкага аленя. Некалькі гадоў таму вялікім попытам на рынку карысталася лебядзінае пер'е. Службы аховы прыроды перад кожным большым святам, як Каляды ці Вялікдзень, абыходзяць базары. Аказваецца, што на парадку дня бывае продажа ахоўваемых елак, цісаў, дзеразы ці сухазелля. Гандляры тлумачацца незнаёмасцю законаў, плацяць штраф, пераходзяць у другое месца і гандлююць далей.

Спіскі ахоўваемых звяроў і раслін з кожным годам падаўжаюцца. Ранейшыя законы, ад 1983 года, бралі пад ахову 75 гатункаў раслін; цяпер, ад 1 красавіка г.г., ужо 125 гатункаў. Вылікі ахоўнікаў прыроды знявечваюцца ігнарантамі ў папулярных тэлепраграмах, якія з відам знаўцаў аб'яўляюць, што найлепшым лякарствам на ўсякай немачы з'яўляюцца мурашкі. Толькі і глядзець, як неўзабаве ў лясах паявяцца людзі з бутэлькамі і пачнуць выбіраць з абнятых аховай мурашнікаў гэтыя карысныя насякомыя. Добрым, паводле аздараўленцаў, лекам з'яўляецца таксама мазь з рогаў аленя і сурковага сала.

Ахова прыроды гэта ахова чалавека. Калі чалавек не ўмее задбаць пра сваё асяроддзе і ўмела ім карыстацца, нездоўга адчуе жалюгодныя выследкі свайго невуцтва і рабаўніцтва.

**Андрэй Гаўрылюк**

## ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

**Гарызантальна:** 1. прыбор для чысткі, зямтання, 3. абмалочаныя сцёблы, 5. сакавіты лясны плод, лечыць ад прастуды, 7. сталіца Азербайджана, 9. бацька зяця, 10. дзед бабы, 11. гарэлка з ядлоўцавым пахам, 12. вялікі горад у Калумбіі, 14. ручная вага, 16. прычына, выпадак, 17. чалавек з фізічным недахопам.

**Вертыкальна:** 1. беларускі гімнаст, 2. прыток Волгі, 3. сталіца Йемена, 4. сталіца Омана, 6. палітычны напрамак, які адстойвае свабоду прадпрымальніцтва, 8. расейскі пісьменнік, аўтар „Паядынка", 9. непасрэдны назральнік· здарэння, 11. Ямуна, правы прыток Ганга, 13. род мастацкай літаратуры, 14. няшчасце, 15. сербскі кампазітар.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 31 н-ра:** беркут, класік, Слонім, нарцыс, батрак, кімано, тырада, маскіт, кросны, снягір, графіт.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Яўгену Бялькевічу** з Чыжоў.

Ніва

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**
**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**
Старшыня Праграмнай рады — Варвара Пякарская

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1996 r. upływa 20 listopada 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,30 zł (13 000 st. zł), a kwartalnie — 16,90 złotych (169 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

З НАРОДНАГА

## Прыпеўкі

Чаго мілы не вырос,
Чаго малаваты?
— Прыхапіў мяне мароз
Каля тваёй хаты.

Я па беражку бягу —
Бераг асыпаецца.
Я бяззубага люблю —
Бяззубы не кусаецца.

Не судзіце, добры людзі,
Што я абшарпаўся.
Мой татулька такі быў,
Я па ім удаўся.

А мілашка мая,
Стаў я разжывацца.
Прадаў сенцы, купіў дзверцы,
Пачаў зачыняцца.

Падборку зрабіў
**Янка Целушэцкі**

## ВЕТЭРАНЫ СЕКСУАЛЬНАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

Мы ўсяго ў свой час
Набачыліся, брат:
Парнаграфіі, распусты,
Прастытуцыі...
Засталося нас ужо
Не вельмі шмат —
Ветэранаў
Сексуальнай рэвалюцыі.

**Міхась Міравовіч**
*("Вожык")*






Мал. Леаніда Разладава

## Смех у санаторыі або „Даўціпы" з альбома Андрэя Гаўрылюка

— Чаму вы сёння спазніліся на працу? — пытае дырэктар працаўніка.
— Стаў бацькам!
— Віншую! Сын ці дачка?
— Гэта буду ведаць праз дзевяць месяцаў.

***

Уваходзіць Пеця ў мясную краму і бачыць многа тавару і надпіс „Мяса не для яды".
— Ці вы падурэлі?! — здзівіўся. — Прадаеце непрыдатнае для яды мяса?
— Будзьце ціха! — шэпча прадавец, — гэта для падману мух.

***

— Коля, твой конь хацеў укусіць мяне за галаву!
— Ну і мае жывіна нюх! Адразу пачуў сена.

***

— Знаеш, сёння мая жонка ацаліла жыццё некалькім асобам!
— Цудоўна! Як гэта сталася?
— Разбіла самаход, выязджаючы з гаража.

***

Размова на рыначку:
— Па колькі яйкі?
— Цэлыя па 17 грошаў, а надбітыя па 10.
— То прашу мне надбіць 20.

***

— Ці гэта праўда, што Юзіка пасадзілі ў турму?
— Так, праўда.
— А мне гаварыў што едзе да брата.
— Усё праўда; яго брат таксама сядзіць.

# „НАШАГА" НА ПРЭЗІДЭНТА

Перадвыбарчая прэзідэнцкая кампанія ў III Рэчы Паспалітай ідзе поўным махам. Цікава нават цяпер сесці перад тэлевізарам і паглядзець на спектакль, які адбываецца з удзелам галоўных сатырыкаў краіны. Шкада толькі, што не захацеў кандыдаваць ніхто з нашых знакамітых дзеячаў. Было б прынамсі вядома, на каго галасаваць, у чыю падтрымку пісаць артыкулы. Столькі ў нас выдатных асоб, што іх адсутнасць у гэтых выбарах проста здзіўляе.

Хаця ўжо вызначылася каля трыццаці кандыдатаў, але ўсё яшчэ не хапае поўнай рэпрэзентацыі грамадства. Беларускі кандыдат патрэбны на польскай палітычнай сцэне хаця б і таму, каб беластоцкія журналісты мелі аб чым пісаць. А так толькі перапісваюць нейкія паведамленні інфармацыйных агенцтваў. Гарантавана бы ён таксама выбарчай кампаніі поўную каларытнасць. Проста шкада, што няма „нашага хлопца" сярод кандыдатаў на найвышэйшы пост Рэчы Паспалітай. Праўда, не меў бы ён ніякіх шанцаў выйграць выбары з вядомым эстрадным артыстам Ясем Петшакам, але мог бы апярэдзіць пару іншых кандыдатаў. Напрыклад, Януша Брычкоўскага, які абяцае палякам свабоднае карыстанне сібірскай нафтай і сяброўскае стаўленне да іх з боку Валодзі Вольфавіча Жырыноўскага. Іншыя кандыдаты ў прэзідэнты прапануюць грамадзянам сваю праграму, якой галоўным лозунгам ёсць „чыстая вада", лячэнне псіхатэрапіяй, ці пашырэнне кантактаў з касмічнымі цывілізацыямі. Гэта несумненна цікавыя прапановы, але „наш" кандыдат пры дапамозе свайго выбарчага штаба мог бы прыдумаць таксама нейкую арыгінальную праграму.

Не ўспамінаю тых кандыдатаў, якіх многія лічаць патэнцыяльнымі пераможцамі, бо чым больш іх слухаю, тым менш разумею пра што ім ідзе. Перш за ўсё гавораць яны пра сваіх канкурэнтаў і ў асноўным даказваюць, якія яны некампетэнтныя, недавучаныя, амаральныя. Выглядае так, што адзін не ўмее да дзесяці злічыць, другі можа прадаць Польшчу нейкім масонам, трэці з'яўляецца агентам бліжэй неакрэсленых сіл, чацвёрты мае штосьці супольнага са сталінізмам. Проста няма на каго аддаць голас і такім чынам няма магчымасці выканаць свой грамадзянскі абавязак. І гэта ёсць другая прычына майго расчаравання адсутнасцю „нашага" кандыдата ў гэтых выбарах.

Ёсць яшчэ і трэцяя прычына. Беларускія палякі ў мінулагодніх выбарах вылучылі аднак свайго кандыдата на пост прэзідэнта Беларусі. Быў ім старшыня Польскага дэмакратычнага аб'яднання, якое там дзейнічае (прозвішча не памятаю). Раней за магчымасць балаціравацца ў прэзідэнты змагаўся граф Аляксандр Прушынскі, пакуль не выдварылі яго недзе за мяжу, бо не быў грамадзянінам Беларусі. А шкада, бо было весела. Праўда, выйграў выбары нейкі расейскі сатырык, але вялікай карысці ад гэтага няма, бо ніхто ўжо не мае нават сілы смяяцца з яго жартаў, якія кожны дзень расказвае ў сродках масавай інфармацыі.

Чаму ж тады польскія беларусы маюць быць горшымі за беларускіх палякаў? Ёсць папраўдзе і нейкія фармальныя перашкоды, але невялікія, каб імі ўсур'ёз займацца. Напрыклад, кандыдат „Стронніцтва Нарадовага", нейкі Аркадыюш Рыбіцкі, прапануе ўвогуле не дапускаць нацыянальныя меншасці да ўдзелу ў выбарах, але пакуль што гэта толькі яго арыгінальны ўклад у еўрапейскую палітычную думку канца дваццатага стагоддзя.

**Васіль Кургановіч**

## Як заяц цешчы выклікаў „хуткую дапамогу"

„Хуткая дапамога? Хутчэй прыязджайце, цешча звар'яцела", — паведаміў маладзечанскі будаўнік П., пазваніўшы па тэлефоне „03".

Брыгадзе санітараў, якая прыехала да яго дамоў па выкліку, ён шэптам паведаміў: „Мабыць, цешча з глузду з'ехала — варыць суп з цвікоў". Медыкі пайшлі на кухню і самі пераканаліся, што бабуля памешвае лыжкаю ў каструлі з кіпнем цвікі, гайкі, шрубкі. Яе пасадзілі ў машыну і павезлі ў бальніцу. Але хутка выпусцілі, калі даведаліся, што варыць цвікі цешчу прымусіў сам зяць, які мерыўся будаваць сабе дачу. Ён пераканаў яе, што цвікі пройдуць у кіпні загартоўку, стануць цвярдзейшымі і не будуць гнуцца на будоўлі.

**Мікола Капыловіч**
*(„Чырвоная змена")*




Дарагое Сэрцайка! Пішу табе, а слёзы так і капаюць на паперу. Прабач! Было ў мяне адно-адзінае дзіця — дачушка. Пішу „было", бо яно, дзякуй Богу, жыве, але сталася ўжо быццам бы і не маё. Дачцэ ўжо сёння трыццаць гадоў.

А была мая дачушка адзіным ясным праменьчыкам у маім жыцці. Была ўсім добрым, што мне ў жыцці надарылася. Муж быў нягодны. І піў, і біўся. Часта, калі я ведала, што ён п'яны, баялася ісці дахаты.

Дачка яго не баялася. Хоць бы быў невядома які п'яны, яе ніколі не чапаў. І, які б кепскі не быў бацька, яна яго па-свойму любіла. Я разумела яе і ніколі не казала нічога дрэннага на бацьку, хаця няшмат увагі ён прысвячаў выхаванню дачкі. Няхай дзяўчынка некага мае хоць у сваім уяўленні, думалася мне.

Але я аддавала ёй усе свае пачуцці, свой час, сваю працу. Вельмі рана я захварэла і стала пенсіянеркай. Дык не хадзіла на працу, а глядзела толькі за домам і дзіцём.

Дачушка заўсёды была тоўсценькая, румяная. Старалася я ёй купляць моднае адзенне. Трэба прызнацца, што муж, хаця піў і грубіяніў, дык грошы спачатку даваў.

А пасля станавілася ўсё горш. Муж піў часцей, грошай меншала, а мне хацелася даць дачцэ як мага больш. Неяк камбінавала я, бегала па крамах, каб нешта купіць танней. Дачка выглядала, як прынцэса, і, трэба сказаць, вучылася добра.

Пачалі заходзіць да нас хлопцы. Часамі здаралася няёмкае становішча. Прыйшоў хлопец, а бацька напіўся. Каб яшчэ дзесьці схаваўся ў куток, а то вылазіў са свайго пакоя і прабаваў дыскутаваць з хлопцам. Было сорамна.

Я ўсё сэрца аддавала дачцэ, перажывала, каб хаця яна знайшла на сваёй жыццёвай дарозе добрага чалавека. Баялася, што паводзіны п'янага бацькі патрапяць адпіхнуць ад яе кожнага хлопца. Старалася ёй дапамагчы, нешта разумнае падказаць, параіць. Спачатку яна слухала мяне ўважна, а пасля, заўважыла я, пачала пускаць усё міма вушэй.

Я не разумела, што дзеецца. А яна маўчала. Калісьці я не вытрымала і спытала, у чым справа. А яна, уся ў нервах, ды і кажа мне, каб „не сунула носа ў не свае справы". Божа мой! Чаго я тады толькі не наслухалася!

А справа ў тым, што хадзіла яна тады ўжо год з адным хлопцам. Бадай кожная маці лічыла б яго амаль сваім зяцем. Дык што, кепска, што я купіла яму нейкую дробязь, калі ўбачыла нешта цікавага ў краме? А што, запытацца, калі плануюць вяселле, таксама не магла?! Трэба ж было сукенку рыхтаваць...

Дачка лічыла, што ўсё ў іх разваліласа па маёй віне, хаця і сукенка ўжо была пашытая. І так адсунулася ад мяне, што нават, калі знайшла наступнага хлопца, выбралася ад нас і пачала жыць з ім. Я перажыла шок. Мая дзяўчынка жыве з разводнікам! Без шлюбу!

Але тым часам яны ўзялі ціхі шлюб, не хацелі ніякага вяселля, гасцей, падарункаў. Дачка не дзеліцца са мной сваімі справамі, быццам уцякае ад мяне, калі прыходзіць і не застане ў хаце свайго бацькі-п'яніцы. Кажа, што ён яе намнога больш разумее, бо не ўлазіць у душу і дае больш свабоды. Лічыць, што я была вінавата ва ўсіх яе няўдачах, бо не ўмела „захаваць дыстанцыю". Як вярнуць дачку?

**Варвара**

Варвара! Вось менавіта, захоўваючы адпаведную дыстанцыю ў адносінах да прыватных спраў тваёй дачкі. Яна ж ужо дарослая жанчына, а табе ўсё яшчэ здаецца, што мусіш трымаць яе за ручку. Яна ўжо ўмее хадзіць сама!

Яе хлопцы — гэта таксама была яе справа. Калі ты аж так была адкрытая ў адносінах да іх, дык напэўна не адзін з іх падумаў, што хочаш сілком злавіць дачцэ мужа, і ўцёк.

Я разумею, як табе цяжка, але дай ёй крыху адпачыць ад сваёй асобы. Прыкра табе, бо яна была для цябе ўсім, а яна не можа аддзякаваць тым жа. Так выглядае наша жыццё, што ў нашых дзяцей ёсць яшчэ мацнейшае каханне — муж, жонка, а пасля свае дзеці. Адплаціць табе дачка за тваё каханне да яе — каханнем да сваіх дзяцей. Такая прырода.

Дарэчы, калі паявяцца ў яе дзеці, дачка палагаднее ў адносінах да цябе, бо зразумее больш. Ды і бабуля заўсёды спатрэбіцца.

**Сэрцайка**